

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЦАНА 15 КАП.

N 1

**Язэп Вісарыёнавіч СТАЛІН**

**Да пяцідзесяцігодзьдзя з дня нараджэньня**






**9-ты ГОД ВЫДАНЬНЯ**

# БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

**МЕНСК .. .. .. .. .. .. .. Савецкая, 63.**

**ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА НА 1930 ГОД**

НА ШТОМЕСЯЧНУЮ БЕЛАРУСКУЮ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ, КРЫТЫКІ

# „ПОЛЫМЯ“

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ:
Я. КУПАЛЫ, А. НЕКРАШЭВІЧА, М. ЧАРОТА, І. ШЫПІЛЫ.

**„ПОЛЫМЯ“** знаёміць з дасягненьнямі беларускай мастацкай літаратуры, літаратуры іншых народаў Савецкага Саюзу і чужаземнай, друкуе романы, аповесьці, апавяданьні, п'есы, поэмы, вершы.

**„ПОЛЫМЯ“** друкуе матэрыялы па політыцы, экономіцы, гісторыі беларускай культуры і гісторыі рэволюцыйнага руху на Беларусі.

**„ПОЛЫМЯ“** зьмяшчае шмат навуковых матэрыялаў па філёзофіі, марксызму і ленінізму.

**„ПОЛЫМЯ“** дае чытачу крытычныя матэрыялы аб беларускай літаратуры, літаратуры іншых народаў СССР і чужаземнай.

**„ПОЛЫМЯ“** дае на сваіх старонках багаты кнігапіс-бібліографію, занатоўвае ўсе зьявы беларускай культуры, дае хроніку культурнага жыцьця ўсяго СССР, а таксама замежных краін.

У **„ПОЛЫМІ“** бяруць удзел самыя выдатныя літаратары, крытыкі, публіцыстыя і навуковыя сілы.

Час. „ПОЛЫМЯ“ выходзіць штомесяц—12 кніжак на год, памерам кожная ў 10-12 аркушоў

**У 1930 ГОДЗЕ ПАДПІСНАЯ ЦАНА ЗЬНІЖАНА з 12 на 10 РУБЛЁЎ**

## Умовы падпіскі:

| на 12 м. | на 6 м. | на 3 м. | Кошт асобнага нумару |
|---|---|---|---|
| 10 р. | 5 р. | 3 р. | АДЗІН РУБЕЛЬ |

**МОЖНА ПАДПІСАЦЦА НА ВЫПЛАТУ**

**ГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ** у 3 тэрміны: пры падпісцы—4 р., да 1 ліпня—3 р. і да 1 кастрыч.—3 р.

**ПАЎГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ** у 2 тэрміны: пры падпісцы—3 руб. і да 1 чэрвеня—2 руб.

**Падпісчыкам, якія заплацяць адразу ўсе грошы, ДАЮЦЦА НАСТУПНЫЯ ІЛЬГОТЫ:**

**ГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ** дарма комплект „ПОЛЫМЯ“ за 1928 або 1929 год і пры куплі мастацкай ды політычнай літаратуры выданьняў БДВ (на суму да 30 р.) скідка ў 25 проц.

**ПАЎГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ:** пры куплі мастацкай і політычнай літаратуры выданьняў БДВ (на суму да 20 руб.) скідка ў 15 проц.

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** Бюро падпіскі БДВ (Менск, Савецкая, 63), Цэнтральнай кнігарняй БДВ (Менск, рог Ленінскай і Савецкай), усімі акруговымі аддзяленьнямі БДВ, аддзелам падпіскі Беларускага аддзяленьня ГІЗ'у РСФСР (Менск, Савецкая, 54), яго агентурай на акругах і раёнах, усімі п.-т. канторамі і аддзяленьнямі, Беларускім аддзяленьнем выд. „Правда“ (Менск, Савецкая, 61) і яго пададдзяленьнямі, канторай газэты „Беларуская Вёска“ (Менск, Савецкая, 63) ды яе ўпаўнаважанымі і селькорамі ва ўсіх раёнах БССР.

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ



10 студзеня 1930
N 1
АДРАС РЭДАКЦЫІ
МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 63

Ударніца каля варштату

Фото Ў. Азерскага)

# 11 год БССР

30 сьнежня 1918 году ў горадзе Смаленску VI конфэрэнцыя Паўночна-Заходніх організацый РКП(б) пастанавіла абвесьціць Беларусь самастойнай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікай; гэтая-ж VI конфэрэнцыя абвясьціла сябе 1 зьездам КП(б)Б.

1 студзеня 1919 году быў апублікаваны маніфэст Рабоча-сялянскага ўраду Беларусі, які агалашаў утварэчьне Беларускай соцыялістычнай савецкай рэспублікі.

Савецкая Беларусь народжана ў агні Вялікага Кастрычніка, яна створана беларускім пролетарыятам у непарушным саюзе з рэволюцыйным сялянствам, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, пры дапамозе расійскага пролетарыяту. Пролетары Расіі, на чале з комуністычнай партыяй, у слаўныя Кастрычнікаўскія дні дапамаглі рабочым і сялянам Беларусі зьнішчыць уладу свае буржуазіі і абшарнікаў і ўтварыць сваю рабоча-сялянскую дзяржаву—Беларускую соцыялістычную савецкую рэспубліку. Так прышла Беларусь на шырокі вольны шлях свайго красаваньня.

Разам з 11-годзьдзем БССР сёлета прамінае роўна 11 год з дня першага зьезду КП(б)Б—заснавальніка Савецкае Беларусі.

КП(б)Б непарыўная частка ЎсеКП(б)—вядзе сваю гісторыю ад РСДРП(б). Ад пачатку свайго існаваньня РСДРП(б) вяла работу па організацыі рабочых і сялянскіх мас Беларусі (Палескі Камітэт РСДРП(б), Паўночна-Заходні камітэт РСДРП), вяла змаганьне са згодніцкімі дробна-буржуазнымі партыямі (Бунд, Поалей-Цыён, Беларуская соцыялістычная грамада, эсэры). Усе гэтыя партыі здрадзілі рэволюцыі і ў вялікія дні Кастрычніка апынуліся на другім баку барыкад.

11 год Савецкае Беларусі прамінае пасьля таго, калі працоўныя масы па ўсёй земнай кулі адсьвяткавалі дванаццатую гадавіну перамогі пролетарскае рэволюцыі, дванаццатую гадавіну існаваньня першай у сьвеце Краіны саветаў. За гэтыя дванаццаць год пролетарыят усяго сьвету перажыў гіганцкую па сваім значэньні гісторыю. У шматлікіх бойках пролетарскіх атрадаў з капіталам, у перамогах і няўдачах пролетарыят назапашвае вопыт да астатняга бою.

Узяўшы ўладу ў свае рукі, рабочыя і сяляне Беларусі, супольна з працоўнымі ўсіх іншых савецкіх рэспублік, на працягу 11 год вялі ўпартую барацьбу за сваю свабоду, за сваю рабоча-сялянскую бацькаўшчыну. На фронце і ў тылу, на фабрыцы і ў полі, ад варштату да дзяржаўнага кіраўніцтва на працягу ўсіх год існаваньня савецкай улады ўсюды ішла ўпартая барацьба, якая дала нам магчымасьць абараніць краіну ад ворагаў і стаць на шлях шырокага соцыялістычнага, экономічнага і нацыянальна-культурнага разьвіцьця.

Зразумела, цяжкасьці наперадзе вялікія, але *моцны падмурак будаўніцтва соцыялізму ўжо закладзены.* Беларусь з краіны аграрнай ператвараецца ў краіну аграрна-індустрыяльную. Павялічваецца і мацнее інтэнсіфікацыя і машынізацыя адсталай сельскай гаспадаркі на соцыялістычных асновах. Колгасны рух расьце і ахапляе ўсе бядняцка-серадняцкія масы сялянства. Цэлыя акругі пераходзяць на суцэльную колектывізацыю, організуюцца агрокомбінаты, магутныя саўгасы і г. д.

Пад гаспадарку рабоча-сялянскае краіны падводзіцца новы базіс—электрыфікацыя, якая зьяўляецца ўжо цяпер ня толькі плянамі, але сілаю, якая часткова ўжо ўвайшла ў нашу гаспадарку і якая паступова ўваходзіць у бліжэйшы час.

Індустрыялізацыя нашае краіны кладзе пад усё будаўніцтва такі падмурак, які ня зможа разбурыць ніякая інтэрвэнцыя, ніякая варожая сіла. Расьце лік прамысловага пролетарыяту, з кожным днём паляпшаецца матэрыяльна-бытавое становішча рабочых і сялян. На грунце агульнага экономічнага ўздыму і росту ідзе магутны росквіт беларускае пролетарскае культуры. Беларусь пакрыта тысячамі школ, у якіх навучаюцца дзеці рабочых і сялян у іх роднай мове, а таксама і часткаю вышэйшых навучальных установ; заснавана Беларуская акадэмія навук. Усё гэта—заваёвы пролетарскае рэволюцыі, створаныя воляю рабочых і сялян. На фронце мастацтва расьце і квітнее беларуская пролетарская літаратура, тэатр, музыка, расьце і шырыцца пэрыодычны беларускі друк, выдаюцца тысячы кніг як на беларускай мове, так і на мовах нацменшасьцяй.

**Працаўнікі Заходня-Вобласнае організацыі РКП(б)—заснавальніцы БССР.**



т. ПОЗЭРН. т. МЯСЬНІКОЎ. т. КНОРЫН.

Адзінаццацігодзьдзе БССР супадае з годам вялікага пералому на ўсіх франтох соцыялістычнага будаўніцтва, з першым годам выкананьня пяцігадовага пляну народнае гаспадаркі і культуры СССР.

„Мы ідзем поўным крокам па шляху індустрыялізацыі да соцыялізму, пакідаючы далёка за сабою нашу спрадвечную „расійскую“ адсталасьць. Мы становімся краінай мэталёвай, краінай аўтомобілізацыі, краінай трактарызацыі“ *(Сталін)*.

Будуючы соцыялістычную бацькаўшчыну, рабочая кляса і яе правадыр—комуністычная партыя вядзе бязьлітасную барацьбу з капіталістычнымі элемэнтамі гораду і вёскі, дае рашучы бой правым і левым ухілістым, змагаецца з прымірэнцтвам да іх, змагаецца з шовіністымі і нацыянал-дэмократамі ўсіх колераў, усіх нацый.

Соцыялістычны рост СССР родзіць нянавісьць у міжнародных імпэрыялістых да пролетарскай краіны. Капітал усяго сьвету больш вядзе падрыхтоўку нападу супроць нашага Саюзу. А побач з гэтым СССР акружаецца палкай замілаванай любасьцю прыгнечаных і зьняволеных усёй земнай кулі. Адусюль - з капалень Рура і глухіх куткоў Заходняй Беларусі, фабрык Манчэстэру і стогнучай Індыі, з гіганцкіх заводаў Дэтройту і Паўднёвай Амэрыкі, з фашыцкай Італіі і далёкага Кітаю,—адусюль да СССР цягнуцца ніці непарыўнай сувязі і солідарнасьці, адусюль зьвернуты ня яго погляды мільёнаў працоўных. Кожны новы посьпех Савецкага Саюзу—гэта посьпех сусьветнай рэволюцыі, кожная новая перамога—гэта перамога пролетараў Захаду.

У адзінаццатую гадавіну БССР зірнем на капіталістычны Захад, зірнем на Заходнюю Беларусь. Праз мора крыві, праз агні і пажары, праз мукі і сьмерць сваіх герояў-сыноў, пролетараў, ідзе Заходняя Беларусь да вызваленьня.

Уся Заходняя Беларусь—гэта астрог, у якім ваяводы, старосты і ўвесь панскі апарат грае ролю астрожнае варты і прагна сочыць за стогнучым у няволі народам. Тут—уся ўлада ў руках рабочых і сялян, там—наглуха забіты беларускія школы, нямілажальна прасьледуецца друкаванае беларускае слова. Але блізіцца час агністага сьвітаньня Сярпа і Молата над Злучанай Зямлёю, час Сусьветнае пролетарскае рэволюцыі.

Дык шырэй крок. Натужней мускулы, ужо гал раздаўся шырэй, ужо падмурак падняты вышэй, ужо паветра больш і сьвятло яскравей.

Сусьветны пролетарыят пад Ленінскім сьцягам ідзе да перамог соцыялізму.




# Воўчае сэрца

Апавяданьне МІХАСЯ ЧАРОТА.

Малюнкі І. Ахрэмчыка.

## I.

КАЛІ ўзьнімаецца моцны вецер, гне да самай зямлі дрэвы альбо і зусім выварачвае іх з карэньнем, калі зрывае саламяныя стрэхі, а чалавеку цяжка ўстаяць на нагах,—людзі кажуць:

— Нехта павесіўся...

Але гэта толькі людзкая выдумка. Гэта выдумка старадаўніх часоў, калі людзі ня ведалі, чаму раптам узьнімаецца вецер, чаму грозная стыхія пачынае бушаваць, пачынае перашкаджаць спакойнаму жыцьцю чалавека.

Вісільнік—гэта выдуманая людзьмі прычына ветру. Вось чаму зусім ня было ветру, калі ў каморцы знайшлі павешаную дзяўчыну?..

Была маёвая ружова - блакітная раніца.

Расінкамі, нібы срэбнымі пацеркамі, упрыгожаны зялёныя лісьці бяроз.



**...спрытна вырвалася і сказала: — Нібы той воўк!..**

Весела шчабяталі птушкі. Яны сваімі звонкімі сьпевамі віталі росквіт прыроды, услаўлялі жыцьцятворчую вясну-красную.

Ды якая справа гэтым вясёлым насельнікам лясоў і палёў да таго, што загублена жыцьцё маладой дзяўчыны?

А ня так даўно гэта самая дзяўчына сваімі мэлёдычнымі сьпевамі, як той птах-салавей, чаравала зялёны гай, вабіла да сябе маладога пастуха Міколу.

Мікола моцна кахаў Марысю. Можа таму ён і не жалкаваў на сваю долю, ня лічыў ганебным, калі яго хто-небудзь пагардліва абзываў пастухом.

Марыся таксама кахала Міколу.

Яна сваім дзявочым сэрцам адчувала шчырае каханьне Міколы. Вялікай асалодай былі для яе тыя хвіліны, калі яна спатыкалася з Міколам.

А здарылася так.

Аднойчы, у зімовы вечар, Марыся вярталася дахаты з вячорак. Была адліга. Дыліў мяккі пушысты сьняжок.

— Марыся!—пачула яна голас, праходзячы каля хаты самага багатага селяніна Рыгора.

Марыся хацела шпарчэй закрочыць, але раптам з брамы выскачыў старэйшы сын Рыгора—Максім.

— Слухай, Марыся...

Марыся баязьліва азірнулася і неяк мімаволі спынілася...

— Я праведу цябе дахаты... Я даўно хацеў з табою пагутарыць...

Марыся маўчала. Максім падышоў да яе. Толькі засыпаная сьнегам лахматая шапка Максіма кінулася ў вочы зьбянтэжанай дзяўчыне. У твар яго і ня глянула.

Калі паволі ішлі да Марысінай хаты, Максім казаў:

— Я ведаю, што ты пастуха Міколу кахаеш... Але я... я таксама цябе кахаю... Я... толькі, каб мае бацькі ня ведалі... Вось чаму не адважваўся казаць табе аб гэтым... Ты разумееш? Што ты бедная—гэта нічога... Ці-ж яно ў жыцьці так ня бывае?

У сэрцы Марысіным нешта сьвідравала, але яна ніводнага слова не праравіла за ўсю дарогу...

Каля варот, дзе трэба было разьвітацца, Максім раптам ахапіў стан Марысі і сілком хацеў пацалаваць. Марыся спрытна вырвалася і злосна сказала:

— Нібы той воўк!..

і хутка пабегла ў хату.

З гэтага дня Максім не даваў Марысі супакою. Заходзіў на вячоркі, калі там была Марыся. Сядзеў каля яе прасьніцы цэлы вечар.

Уся вёска ведала, што Максім, сын багацея Рыгора, хоча жаніцца на Марысі. Шмат якія дзяўчаты зайздросьцілі.

Толькі Марысю гэта чамусьці ня радавала. Сэрца яе больш ляжала да Міколы-пастуха, чым да багатага Максіма.

Мікола-ж з восені да вясны, пакуль гнаць у поле скаціну, ужо некалькі гадоў служыў парабкам у Рыгора. У гэту зімку, як толькі ён дачуўся, што Максім хоча жаніцца на Марысі, спрадаў усё заробленае за пасту збожжа і падаўся ў горад.

З болем у сэрцы разьвітаўся ён з Марысяю, каб не стаяць ёй на дарозе да яе дзявочага шчасьця. Марыся заплакала, пачала ўгаварваць. Ды толькі нічога не памагло. Цьвёрда рашыў Мікола паехаць—і паехаў.

Максіму гэта было наруку. Цяпер ён ведаў, што адзін будзе ўладаць сэрцам дзяўчыны, адзін будзе карыстацца яе пяшчотнымі ласкамі.

За зіму Марыся ні то што пакахала Максіма, а больш прывыкла да яго. Ён стаў для яе блізкім чалавекам.

А калі прыйшла вясна, Марыся зноў успомніла Міколу. Ды толькі Мікола быў ад яе далёка.

Таму цёплыя вясновыя вечары, якія так шалёна хвалююць кроў, абуджаюць дзівосныя пачуцьці, Марыся праводзіла з Максімам. У некім нязразумелым парываньні яна часта прытулялася да яго, шаптала яму пяшчотныя словы, гладзіла яго твар.

А ў памяці застаўся толькі адзін вечар. У нейкай салодкай млявасьці ачнулася яна ў садку, каля бэзавых кустоў, і ня ведала, што з ёю сталася. А Максім гладзіў яе рукі, прыхіляў да сваіх грудзей і шаптаў:

— Нічога, Марыська, мы пажэнімся... Ты пойдзеш да нас жыць...

Марыся пакорлівым зрокам акінула Максіма, і на яе твары зьявілася чыста дзіцячая ўсьмешка.

— Толькі ты ня кідай мяне... Чуеш, Максім?.. Сораму баюся...

Подых ветрыку шастаў кустамі, якія былі сьведкамі першых салодкіх хвілін яе дзявочай вясны.

А праз год у гэтую самую пару яна ўжо была маткаю белакудрага хлапчука з цёмна-шэрымі вочкамі і жыла ў Рыгоравай хаце.

Толькі нявесткаю Марыся сябе не адчувала. Была яна хутчэй наймічкаю багатага гаспадара, чым жонкаю Максіма. Зьдзек і лаянку цярпела яна штодня. А Максім—не хацеў прызнавацца, што яна жонка. Каханьне дымам у паветры разьвеялася.

— А што-ж,—казаў Максім,—алімэнты буду плаціць табе? Вось працуй, еж хлеб, а далей будзе відаць!

— Я не памылілася, калі пры першым спатканьні сказала, што ты воўк... і сэрца ў цябе воўчае...

Максім стукнуў кулаком па стале.

Поўныя дзявочага агню вочы патухалі з кожным днём. Сьвежы ружовы твар пачаў жоўкнуць. Марыся была поўна роспачы і гора. Але маўчала, усё зносіла, баючыся сораму людзкога.

— Я пайду ад цябе... грошай тваіх ня трэба... наймуся на працу і буду гадаваць сынка...

— Ня трэба грошай! Ведаю гэта ня трэба. Суд прысудзіць!

Вось што прымушала Максіма лічыць жонкаю Марысю, не кахаць яе, а трымаць за наймічку ў хаце.

II.

Нявэтлівым паказаўся горад пастуху Міколу. Асабліва сумна было першыя дні, накуль не адшукаў аднавяскоўца—рабочага гарбарнага заводу. Праз нейкі час паступіў на часовую працу на гэтым-жа заводзе.

Пабываў у тэатры, кіно, на сходах. Стала весялей. Знаёмых хлопцаў прыбаўлялася з кожным днём.

Толькі часамі, калі ідзе на працу і пачуе гудок заводу сум агортваў.

Адразу ўспамінае вёску. Перад вачыма—зялёны бярозавы гай. Міколу здаецца, што гэта ён голасам трубы заклікае Марысю. Вобраз Марысі не пакідае і тут, у гэтым шумлівым, поўным бурлівага жыцьця, горадзе. Толькі праца на заводзе,—а працаваў Мікола шчыра і сумленна,—адрывае яго ад думак-лятуценьняў пра вёску.

Так прайшоў год.

Праходзіла другая зіма на яго заводзкай рабоце, як раптам атрымаў ліст з вёскі ад малодшых братоў. Браты пісалі пр яжджаць вясною дахаты. Пісалі, што вёска пераходзіць у колектыў, што шмат будзе працы, жыць пачнуць зусім па-інакшаму.

Многа разоў Мікола чуў і на рабочых сходах пра колектыўнае жыцьцё сялянства, ведаў, што машынамі працаваць будуць. Думка аб гэткім жыцьці яго не пакідала. А ліст братоў зусім пераканаў Міколу, і ён цьвёрда парашыў вярнуцца вясною ў вёску.

— Вось толькі Марыся... Але нічога.—разважаў Мікола сам з сабою.—яна вышла замуж, мае сына... Яна забылася пра мяне... Я пайду ў колектыў, а не багаты мужык бязумоўна ня будзе з беднатою... Ну, значыцца, разлучымся...



**... доўгія зімовыя вечары праходзілі ў гарачых спрэчках...**

Такімі развагамі і думкамі супакойваў сябе Мікола, калі ўспамінаў пра сваё каханьне з Марысяю.

А на вёсцы, куды зьбіраўся вярнуцца Мікола, сапраўды было непакойна. Усе доўгія зімовыя вечары праходзілі ў гарачых спрэчках. Амаль да бойкі не даходзілі сяляне, калі вырашалі пытаньне: ісьці ці ня ісьці ў колектыў. Жанчыны лемантавалі цэлымі днямі.

— Хіба мёртвымі нас у колектывы адправіце, дурні вы старыя.

А мужчыны пасьміхаліся і дразьнілі:

— Вось там так лемантаваць ня будзеце. Пастановіць колектыў маўчаць—ня пікнеце. Аднаму мужыку вас ня ўшчунуць, хіба толькі колектывам!

Ды толькі мала было такіх крыклівых.

Але вясною стала спакойна на вёсцы. Амаль уся вёска аднагалосна парашыла запісацца ў колектыў. У спрэчках за зіму ўсе пераканаліся, што жыць і працаваць колектывам куды лягчэй, чым кожнаму паасобку.

Толькі пяць багацейшых гаспадароў наадрэз адмовіліся ісьці ў колектыў. Ды іх ніхто і не прымушаў.

— Вось туды да Нізкага Галу выселім гэтых паноў-дабрадзеяў—хай сабе там арудуюць,—казалі ў адзін голас колектыўшчыкі.

Сярод пяці быў і багацей Рыгор. Не па нутру была яму гэта справа.

— Хутчэй галаву дам адрэзаць, чым разам з вамі жыць буду ў некім там колектыве!—сказаў Рыгор на апошнім сходзе сялян, калі зацьвярджаўся сьпіс колектыўшчыкаў.

Максім жа—сын Рыгора—супроць бацькі. Ён за адно з колектыўшчыкамі.

— Як я рада, Максімка, што ад бацькі адыйдзем, бо гэта ён падстракае цябе так глуміцца нада мною... А я, я так хачу разам з усімі жыць і працаваць... З бацькам тваім нам ня ўжыцца... Я рада, што ты запісаўся ў колектыў...

Такімі развагамі цешыла сябе Марыся, такою радасьцю дзялілася яна з Максімам, калі ня было нікога ў хаце. Максім чамусьці задуменна маўчаў. Марыся прыхілялася да яго і шаптала:

— Няўжо-ж ты гэтаму ня рад? Чаму сумны такі, калі я пачынаю гаварыць аб гэтым? Скажы, чаму?..

— А табе чаго ў колектыў? Жыві з бацькамі. Хіба дрэнна будзе без мяне?.. Ды што бабам рабіць у колектыве?..

Сьлёзы пакаціліся па пажоўклым твары Марысі. Яна выцерла іх хвартухом і моўчкі вышла ў сенцы. Рыгор сустрэў на парозе, зірнуў скоса і прабурчаў пад нос:

— Зноў не паладзілі. І дакуль гэта адно другога будуць мучыць?..

І ў гэты самы вечар падслухала Марыся размову бацькі з сынам.

— Дык ты гэта сапраўды кідаеш мяне? Разам з галадранцамі ў колектыве жыць думаеш?

Максім крыху памаўчаў, а пасьля кажа:

— Глупства ты, бацька, гародзіш. Хачу з Марысяю як-небудзь разьвязацца... Толькі вось нешта ня выходзіць... Думаў на нейкі час у колектыў пайсьці... Ды кажуць, калі яна ня пойдзе ў колектыў, усёроўна дзіця выплачваць трэба... А я думаў ты тут дапячэш ёй так, што ачураецца хаты, да свайго бацькі пойдзе ці паласца ў сьвет. Ну, а я зноў-бы да цябе вярнуўся...

— Ах, вось яно што!—паціху сказаў Рыгор і зірнуў у акно, ці не падслухоўвае хто-небудзь.

У гэты час на парозе зьявілася Марыся. Яна падышла да дзіцяці, нахілілася над ім і залілася сьлязьмі.

Максім пачаў суцяшаць, а Рыгор закурыў люльку і моўчкі вышаў.

— Ды ўсё гэта мана, Марыся. Мы разам пойдзем у колектыў. Я толькі бацьку так зманіў, каб частку гаспадаркі, якая мне належыць, аддаў бяз лаянкі ды суду. Няўжо ты не разумееш, няўжо ня верыш мне?..

Марыся ня ўнімалася плакаць. Яна сапраўды ня верыла словам Максіма, як ня верыла, што ён яе кахае.

— Ты воўк... і сэрца ў цябе воўчае... сыночак мой дарагі, толькі з табою я застануся...

Максім апрануў сьвітку, шапку, пастаяў крыху каля парогу, а пасьля пайшоў кудысьці, грукнуўшы моцна дзьвярыма.

Марыся прытулілася да грудзей дзіця і галосна плакала.

А праз некалькі дзён Максім на сходзе колектыўшчыкаў гаварыў:

— Бяда вось з бабаю, хоць зарэж—у колектыў ня хоча...

— Ды што ты,—чуліся галасы,—твая баба, Марыся? Вось чаго не спадзяваліся!..

— Ды толькі не паслухаю бабы,—з натхненьнем крычаў Максім,—ня хоча—няхай з бацькамі застаецца, а я з—вамі...

Але думка таемная не пакідала Максіма: як хутчэй пазбавіцца Марысі. З гэтай думкаю ён і сёньня вяртаўся дахаты.

А Марыся не магла прычакацца Максіма. Пасьля таго вечара, калі Марыся падслухала размову бацькі з сынам, зусім іншае жыцьцё пачалося. Максім надзвычайна ласкавым быў да яе. Цэлымі вечарамі сядзеў ён у хаце. Забаўляў дзіця, пяшчотнымі словамі абзываў жонку. Марыся паверыла, што зноў пачалося жыцьцё, як і раней, як у дні іх першых баязьлівых сустрэч, першага палкага каханьня.

III.

Надышла вясна.

Была маёвая ружова-блакітная раніца.

Расінкамі, нібы срэбнымі пацеркамі, былі ўпрыгожаны зялёныя лісьці бяроз.

Марыся ўсю мінулую ноч не задрамала.

Можа таму правяла гэту ноч у бяссоньні, што вечарам з Міколам доўга гутарыла.



**Марыся прытуліла да грудзей дзіця і голасна плакала...**

Мікола вярнуўся з гораду. Аб адным толькі і думаў: хутчэй-бы ды лепей колектыў наладзіць. За парадаю ўсе сяляне да Міколы плынем плывуць. Быў ў горадзе — справу ведаць павінен.

І другая думка не пакідае яго: як-жа з Марысяю, калі і яна будзе разам у колектыве жыць. Мікола сустрэцца баіцца: сэрца нядобрае нешта адчувае.

Ды вось раптам сустрэліся,

У канцы вёскі маёвым вечарам Марыся чакала Міколу, калі ён будзе вяртацца з поля.

Сустрэліся. Ня ведалі, аб чым гутарыць.

— Мікола... ты прыгажэйшым стаў... дарослым.

— А вось ты чамусьці...

Слоў не хапіла ў Міколы, што далей сказаць.

Марыся зноў кажа:

— У горадзе лепей?

— Так. Але чамусьці мяне сюды цягнула. Сам ня ведаю. Хадзіў у гай сёньня... Кожны дзень хаджу, успамінаю, як на пасту ганяў туды... Толькі думаю зноў у горад...

— Чаму, Мікола?

— Сам ня ведаю... Ну, а ты, Марыся, як жывеш?

Марыся прытулілася да Міколы...

— Хаця ня трэба,—вырвалася раптам у Міколы,—нічога не кажы... Я ведаю, мне на вёсцы апавядалі пра тваё жыцьцё...

Яны моўчкі пазіралі кудысьці ў цёмна-сінюю даль маёвага вечара. Недзе далёка пачулася песьня вясковых дзяўчат. Пасьля зьнікла ў змроку надыходзячай ночы. Цень ад прыдарожных верб нейкім цудоўным малюнкам слалася каля іх ног. На небасхіле зіхацелі зоркі і нібы ўзіраліся на маўклівыя постаці Міколы і Мырысі...

Мікола ўкорлівым поглядам глянуў у задуменны твар Марысі і моўчкі разьвітаўся.

Марыся таксама маўчала. Яна кволым поступам, загуменьнямі накіравалася дахаты...

Ня спалася Міколу. Вобразы паўставалі адзін за другім. Зялёны ціхі гай зьмяняўся шумлівым заводам. Сьпеў птушак і гукі трубы перамешваліся з песьнямі рабочых і заводзкім гудком.

А разам з гэтым—не пакідаў яго і вобраз Марысі.

Мімавольна шаптаў Мікола ў нейкім забыцьці:

— Толькі заўтра... заўтра яшчэ раз прайдуся зялёным гаем і зноў у горад... Там лягчэй... Там ня будзе яе... Не абудзяцца ўспаміны мінулага... Яны не патрэбны... Хочацца толькі вёску гэту зьнішчыць... Колектыў зрабіць... Грукатам машын заглушыць сьпеў птушак і шум зялёнага гаю.

Марысі таксама ня спалася. Яна ня зводзіла вачэй з дзіцяці і думала:

— Чаму гэта ня Мікола бацька сына? Чаму так здарылася? Не кахае мяне Максім, не кахае і сына,—сэрца мае адчувае гэта...

Нібы думкі Марысі абудзілі Максіма.

Сонца яшчэ ня ўзышло, зоры яшчэ не схаваліся ў бляваружовым раньні.

— Ты ўжо ня сьпіш?

— Не,—адказала ціхенька Марыся, каб не разбудзіць сына...

— Мне таксама чамусьці ня сьпіцца. Усё думаю...

— Аб чым-жа ты думаеш?

— А вось думаю: пойдзеш ты ў колектыў ці не?..

— Ды што ты, Максімка, гэта-ж мая адна ўцеха... Я толькі і думаю аб гэтым. Вось хутчэй-бы толькі...

На твары Максіма зьявілася дзікая ўсьмешка. Вочы яго запылалі нейкім дзіўным агнём, поўным жудасьці і помсты.

Марысі стала боязна. Яна рэдка калі бачыла такім Максіма. Ёй успомнілася першае спатканьне, калі Максім хапіў яе і хацеў сілком пацалаваць, а яна вырвалася і злосна сказала.

— Нібы той воўк...

— Што з табою, Максім?—нясьмела запытала Марыся,—ты даўно ня быў такім злосным. Чаму так?..

— Ды не, Марыся, сон паганы бачыў... таму так адчуваю сябе...

І нечалавечым рогатам разбудзіў сына, які прытульна спаў каля Марысі...

Марысю апанаваў страх. Яна зьдзіўлена пазірала на Максіма і мацней прытуляла да сябе дзіця.

Праз некалькі хвілін Максім супакоіўся і пачаў ласкава гутарыць з Марысяю.

— Так, Марыська, разам пойдзем у колектыў, разам. Сын таксама з намі... разам.

Як прыгожая раніца вясны, пачаў сьвяціцца твар Марысі. Яна аберуч абхапіла Максіма за шыю: пачала цалаваць. Максім тройчы пацалаваў Марысю і папрасіў яе прынесьці малака з каморкі.

У аднэй кужэльнай кашулі, ухапіўшы конаўку, пабегла ў каморку. Ёй было радасна, яна зноў паверыла, што Максім яе шчыра кахае...

Ды толькі...

Толькі Марыся пераступіла парог каморкі, як за ёю ўскочыў Максім і зачыніў на завалу дзьверы.

У руках яго была вяроўка.

Была маёвая, ружова-блакітная раніца.

Зусім ня было ветру, калі ў каморцы знайшлі павешаную дзяўчыну...

У яе руках была знойдзена пісулька:

*„Ты ў колектыў, а я...“*

. . . . . . . . . . . .

Была маёвая ружова-блакітная раніца..

Мікола на апошняе разьвітаньне прышоў у зялёны бярозавы гай...



**... ускочыў Максім і зачыніў на завалу дзьверы...**

Ён марыў аб горадзе, жыў лятуценьнямі пра завод, на якім зноў будзе працаваць... Ён верыў, што хутка прыдзе Марыся..

Расінкамі, нібы срэбнымі пацеркамі, былі ўпрыгожаны лісьці зялёных бяроз... Міколу здавалася чамусьці, што гэта не расінкі, а сьлёзы дзяўчыны, маладое жыцьцё якой разьбіта няшчасным каханьнем.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На судзе было дазнана, што пісулька напісана рукою Максіма.

# ШЫЕМ ЭЛЕКТРЫЧНАСЬЦЮ.

Нарыс Я. САДОЎСКАГА. Фото Мазэлева і Ў. Азерскага.

Над нізкай няпрыкметнай хаткай убок пакасілася шыльда: „Военный и штатский портной“.

„Фирма существует с 1892 года“.

Вакяніца з аднэй адарванай завесаю дзяўбе носам прызбу. Яна даўно ўжо не ахоўвае жыльлё свайго гаспадара.

Паціху, каб зусім не сарваць яе, зазірнем у вокны.

Цёмная каморка. Каля вокан стол, завалены матэрыялам розных колераў. І тут-жа на стале, сагнуўшыся крукам, сівенькі стары. Ён сядзіць на стале, хістаецца, ускідвае ўверх рукі з іголкай і ўвесь час мармыча сабе пад нос сумную-сумную мэлёдыю.

Калі-б вы не зазірнулі ў гэтыя цёмныя вокны, ці то раніцою, ці ў дзень, ці ў чорны вечар, вы заўсёды ўбачыце старога ў адным і тым самым становішчы, нібы прырос ён да свайго месца.

Малюнак гэты знаёмы ня толькі мне. Кожны з нас ведае, якая цяжкая праца краўца-саматужніка.

Ідучы на кравецкую электрычную фабрыку („Кастрычнік“—Менск), мне наўмысьля хочацца ўявіць сабе самыя цяжкія ўмовы шыцьця рукою, каб потым яскравей кінулася ў вочы параўнаньне паміж саматужным і... электрычным краўцом.

Дарэмнае жаданьне. Сувязі паміж імі, нават пры самым вялікім намаганьні, ні ў чым адшукаць немагчыма.

На чыгуначнай ускраіне Менску, там, дзе ўначы і ўдзень мітусьліва бегаюць ды пакрыкваюць гудкамі цягнікі, надоечы вырас каменны будынак, вельмі дзіўны, нязвычайнае формы. Калі добра ўгледзецца ў яго, лёгка можна заўважыць, што дом пабудаваны ў форме літары „П“.

Каменная літара „П“—гэта будынак электрычнае фабрыкі „Кастрычнік“.






„Фирма существует с 1892 г.“

...кі момант яны ўжо бегаюць па полах ...новых паліто, пара ад іх так і прэ ...угору. Ток выключаны, і сталь прасоў адразу робіцца халоднай, як лёд.

Наколькі электрычнасьць паскарае працу?

Тав. Колбікаў, нядаўна рабочы гэтае фабрыкі, а цяпер—дырэктар, поркаецца ў тоўстых кнігах і знаходзіць патрэбныя лічбы.

Фабрыка зараз вырабляе выключна дамскія паліто: летнія, асеньнія і зімнія. Лічбы даюць магчымасьць параўнаць шпаркасьць працы зараз з тымі днямі, калі фабрыка была раскіданай, тулілася ў трох памяшканьнях, і, галоўнае, з тымі днямі, калі на фабрыцы электрычнасьць яшчэ ня ўжывалася ў гэткай колькасьці. Я запісваю гэтыя лічбы, яны вельмі цікавыя. Асеньняе дамскае паліто шылася раней 272 хвіліны. Зараз на яго шыцьцё ўходзіць 176 хвілін. Летняе паліто раней шылася 311, а зараз—170 хвілін.

* *



Прасаваньне.

А палове 11 на фабрыцы пачынаецца полудзень.

Палуднуюць па цэхах. Спачатку першы цэх, потым—другі і г. д.

За 30 хвілін, дадзеных на полудзень (на фабрыцы некалькі перапынкаў), трэба пасьпець ня толькі паесьці, але і зьбегаць у фабком, даведацца, ці будзе сёньня вытворчая нарада, адшукаць члена рэдколегіі і распытаць, чаму ня пусьцілі артыкул у апошнім нумары друкаванае газэты „Голас Краўца“, якая выходзіць на фабрыцы, і, нарэшце, самае галоўнае, праверыць ход соцыялістычнага спаборніцтва: ці ўзьнялася ўчора продукцыя, ці многа было спазьненьняў, уходаў з працы...

У кожным цэху доўгай залі сталоўкі, у памяшканьні фабкому дзесяткі лёзунгаў, прысьвечаных соцыялістычнаму спаборніцтву.

На адным з іх напісана вершам:

Болтливость—растрата рабочих часов.
В рабочее время язык на засов.

Трохі далей—выклік рабочых першае зьмены закройнага цэху, якія, „улічваючы вялікае значэньне соцыялістычнага спаборніцтва, колектыўна ўступаюць у ўдарную брыгаду“.

На фабрыцы ўжо 40 ударных брыгад. Рабочыя, майстры ўваходзяць у брыгады перадавых барацьбітоў за новыя соцыялістычныя формы працы. На дошцы, якая адбівае ход соцыялістычнага спаборніцтва за 28 лістапада, ня было адзначана ніводнага спазьненьня, ніводнага ўходу з працы...

Пункты ўмовы заклікалі іх скараціць накладныя выдаткі, зьнізіць сабекошт, паменшыць колькасьць браку, не прастойваць бяз справы.

Я праглядаю кастрычнікавы нумар газэты краўцоў і ў вялікім падвале, прысьвечаным праверцы выкананьня ўмовы, знаходжу шмат патрэбных мне лічбаў.

У трэцім квартале, параўнальна з другім, і простоі паменшыліся на 269 проц. У газэце шмат іншых лічбаў, якія яскрава сьведчаць аб тым, што краўцы сур'ёзна аднесьліся да соцыялістычнага спаборніцтва і шмат папрацавалі над тым, каб не адстаць у выкананьні ўмовы.

Гудуць пропэлерамі колы электрычных машын, дрыжаць, урэзваюцца, плаўна ўваходзяць у пласты тоўстага матэрыялу вострыя круглыя нажы.

У ўмелых руках закройшчыкаў нажы плаўна бегаюць па белых рысках, накрэсьленых закройшчыкам, прыдаючы аднолькавым пластам матэрыялу самыя рознастайныя формы.

Я зусім недарма ўсюды падкрэсьліваю—*электрычнае.*

„Кастрычнік“—лепшы прыклад росту кравецкае прамысловасьці Савецкае Беларусі, якая ад раздробленых саматужных форм пераходзіць на самыя высокія мэханізаваныя ступені вытворчасьці.

...Першае, што зьдзіўляе ў цэхах „Кастрычніка,“—гэта стройныя рады электрычных кравецкіх машын, чыстата, здаровае паветра.

Электрычная машына—гэта такая-ж „зінгараўка“, да колаў якой праведзены правады, якія рознастайнымі выкрунтасамі бягуць да мотора.

Электрычную „зінгараўку“ ня трэба панукаць нажымам пэдаляў. Уключыш штэпсаль— і кола машыны завярцелася са шпаркасьцю 2400 абаротаў у хвіліну.

Побач з „зінгараўкамі“ новы цуд—электрычныя прасы: як толькі ўключыш ток, яны адразу пачынаюць награвацца, і праз

# ДВАЦЦАЦІГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ ЛІТАРАТУРНАЕ ДЗЕЙНАСЬЦІ АЛЕСЯ ГУРЛО.

У канцы 1909 г. ў № 52 „Нашай Нівы“ зьявіўся першы друкаваны твор поэты. Пасьля гэтага першага выступленьня на літаратурнай арэне поэта друкуе значную колькасьць сваіх вершаў у розных беларускіх кругабежных выданьнях. Але толькі пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі ён здолеў іх выдаць асобным зборнікам. Першы зборнік поэты „Барвенак“ вышаў у 1924 г., сьледам за ім зьявіліся: „Спатканьні“ (1925 г.), „Сузор'і“ (1926 г.) „Зорнасьць“ (1927 г.) і „Межы“ (1929 г.).

## АСЕННІ ДОСЬВІТАК.

*Досьвітак. Вуліцы поўняцца раньнем.*
*На тротуарах мароз.*
*Рог ці завулак—лес рыштаваньняў:*
*Горад за лета падрос.*

*Посьвістам рэзкім змрок патрывожаны—*
*Гукнуў гудок: уставай!*
*Зьнекуль здалёку па рэйках разложыстых*
*Вышаў насустрэч трамвай.*

*Сам, як павук ў драцяным павуценьні,*
*Зелень іскрыцца з вачэй.*
*Гэй, расступецеся, змрокі і цені,—*
*Ход яго лёту шпарчэй.*

*Шпарыць і шпарыць—мы ня ўгонімся...*
*(Гэта ня конка—скок—сеў).*
*Ужо ад старога горад адмовіўся,*
*У новай расьце ён красе.*

*Ўвесь ён прарэйчан, увесь удратован.*
*Увесь ён—жалеза і сталь.*
*Новы падмурак, што сёньня заснован,*
*Заўтра ён—мур хараства.*

*Вось яны посьпехі, плёны штодзённыя...*
*Заўтра-ж яны узрастуць.*
*Досьвітак... Вуліца... Звоны стозвонныя...*
*Творчыя грукат і стук!..*

**А. Гурло.**

Нарадзіўся поэта 31 студзеня (н. ст.) 1892 г. у м. Капылі, што на Меншчыне, у сям'і селяніна.

Скончыў толькі двухклясную вясковую школу. Да 18 г. працуе на гаспадарцы. Потым (1911 г.) выяжджае ў Пецярбург, дзе застаецца працаваць на мэханічна-адліўным заводзе „Вулкан“. У гэты час ён ходзіць на лекцыі, наведвае вячэрнія курсы, бывае на літаратурных сходках, піша дописы ў „Праўду“.

У канцы 1914 г. яго прызываюць на вайсковую службу, і ён трапляе ў флёт. З 1917 г. прымае актыўны ўдзел у грамадзянскай вайне. Цяпер працуе ў Беларускай акадэміі навук.

На літаратурную арэну ён выступае як поэта бядняцкае часткі сялянства.

Для першых год яго літаратурнае дзейнасьці характарны мотывы засмучаньня і трывогі. Калі ў поэты спаткаюцца заклікі да змаганьня, то гэта змаганьне для яго самога вельмі часта застаецца туманным.

Пасьля рэволюцыі ён становіцца на больш пэўны грунт. Жыцьцярадасныя мотывы, мотывы барацьбы, радасныя малюнкі прыроды, замалёўкі працы рабочых, апяваньне стуку рабочых молатаў („Барвенак“ разьдзел „Звоны працы“) займаюць пачэснае месца.

Яго апошні зборнік „Межы“ падагульвае шлях поэты ад зборніку „Барвенак“ (1924 г.), у якім поруч з пасьлярэволюцыйнымі значнае месца займаюць дарэволюцыйныя вершы, да апошняга часу.

У гэтым зборніку можна наяўна вызначыць, як мотывы асабовых адчуваньняў крыжуюцца з замалёўкамі прыроды.

Стыхія прыроды ў А. Гурло не абмяжоўваецца толькі Беларусьсю. Мы маем надзвычайна ўдалыя вершы аб Каўказе, Крыме, моры.

Творчасьць А. Гурло блізкая да пролетарскай літаратуры.

Будзем спадзявацца, што шырокі размах нашага соцыялістычнага будаўніцтва, наша эпоха вялікіх работ, наша эпоха перабудовы сьвету захопяць поэту, і яго далейшая творчасьць пакажа нам новую Беларусь—БССР,—рэспубліку рабочых і сялян, якая цьвёрда і ўпэўнена ідзе па шляху да лепшае будучыні, ідзе да соцыялізму.

С. Ф.

---

Унізе фабрыкі, у прасторным сьветлым мяшканьні група работніц маленькімі венікам абчышчае новыя, толькі што занесеныя зьверху, паліто, бязьлітасна змагаючыся з кожнаю пылінкаю.

* * *

На чыгуначнай ускраіне Менску, там, дзе дзень і ноч мітусьліва бегаюць цягнікі, дзе гудкі пяюць бадзёрыя песьні, вырас каменны будынак нязвычайнае формы.

Краўцы, раскіданыя ў умовах царскае Расіі, адданыя на бязьлітасную эксплёатацыю гаспадароў сёньня, у Савецкай Беларусі маюць вельмі добрую электрычную фабрыку, на якой яны, магутным колектывам у 1500 чалавек, могуць быць самымі актыўнымі ўдзельнікамі соцыялістычнага будаўніцтва.

Вось чаму так весела гудуць у цэхах колы электрычных машын. Вось чаму такі бадзёры стукат электрычных зінгерак, які далёка разносіцца па вуліцах новага Чырвонага Менску.



Мэханізаваная закройка




З блёкноту **ЗЬМІТРАКА БЯДУЛІ.** Фото У.Азерскага.

У часы недалёкага дарэволюцыйнага мінулага Койданава славілася на Меншчыне і Віленшчыне дзьвюма рэдкасьцямі: коньмі і хасыцкім „рэбэ“.

За соткі вёрст цягнуліся ў Койданава па коняй, адтуль „канюхі“ (гандляры коньмі) езьдзілі назад з багатым таварам— з табунамі коняй па шэсьць і па 10 штук. У Койданава па коняй прыяжджалі з Прусаў і вагонамі адпраўлялі іх за межы.

За соткі вёрст—і нават з-за межаў — прыяжджалі таксама да койданаўскага хасыцкага „рэбэ“. З старадаўных часоў гэтыя яўрэйскія „цадыкі“ („праведнікі“ і „мудрацы“) мелі ў Койданаве сваю рэзыдэнцыю каля „штыбель“ (хасыцкая сынагога).

Уплыў „рэбэ“ быў такі моцны, што нават і неяўрэі зьвярталіся да яго. Ён карыстаўся вялікай апекай царызму. „Рэбэ“ надавалі годнасьць „почетного гражданина“. Царскі ўрад вельмі добра разумеў значэньне „рэбэ“, які ўмее трымаць сваё стада ў „страху божым“. „Рэбэ“ з сваёй сям'ёю выехаў з Койданава ў часы вайны. Яго будынкі згарэлі.

Сваім жыцьцёвым укладам, калі адняць гэтыя дзьве рэдкасьці,—„рэбэ“ і коні,—Койданава падобна да іншых мястэчак яўрэйскага былога гетто на Беларусі.

У мінулым—крамнікі, гандляры збожжам, коньмі, жывёлай, мясьнікі, „мэламэды“, некалькі дробных фабрыкантаў, краўцы, шаўцы, сталяры, цесьляры, кавалі, рабочыя на заводах і інш.

Кожны крамнік, гандляр, і нават рамесьнік, меў „свайго“ пана, якога абслугоўваў, які даваў яму заробак. Кожны меў нават і „сваіх“ сялян, „свае“ вёскі, з якімі вялі гандаль. Часта на вуліцы або нават у сынагозе сварыліся паміж сабою за „сваіх“ паноў, за „сваіх“ сялян. Вялася ў гэтым кірунку пастаянная барацьба за збыт тавараў і вырабаў, за заваёву сымпатыі сялян вакольных памешчыкаў.

Быў гарачы, сонечны дзень. Цэнтр мястэчка — базарная плошча, была поўна сялян. Мы зрабілі беглы агляд мястэчка, абягалі ва ўсе канцы: бачылі і старыя могілкі, і касьцёл, і фэўдальны замак, і Народны дом, і Рабочы клюб, і помнікі загінуўшым барацьбітом за Кастрычнік, і маленькую рэчку Нэцяч якая ледзь прыкметным вузлом перасякае мястэчка, і іншыя месцы.

## „Чайная. Заедкі“.

Гэта вывеска на „беларускай“ мове. „Заедкі“—закускі.

Што адразу кінулася мне ў вочы—гэта тып старой карчмы, якая будавалася мо' 50 або 60 гадоў таму назад, з двума парадными ганкамі да базарнай плошчы, з вялікай замчыстай брамай на двор. У пярэднім пакоі ідзе бойкі гандаль лімонадам, фаршыраванай рыбай з белымі булкамі. За першым пакоем цягнуцца ва ўсе бакі пакоі і пакойчыкі, сенцы, за сенцамі зноў пакоі, цёмныя, сьветлыя, пустыя, некаторыя з канапкамі для гасьцей.



Стары замак (м. Койданава).

За парадкам глядзіць сам гаспадар. Як і яго старая карчма, і ён мае выгляд яўрэя пяцідзесятых гадоў мінулага стагодзьдзя. Доўгая, белая барада, нос з гарбінкаю і чорныя, шустрыя вочы.

Ужо трохі пазьней я чуў, як местачковыя называлі майго гаспадара карчмаром. Значыць, ён раней займаўся продажам гарэлкі. На дварэ ў яго вялізны шпіхляр—які арандуе коопэрацыя пад ссыпны пункт. Тут захоўваецца збожжа. З гэтага я зрабіў яшчэ адзін вывад, што стары даўней і збожжа скупліваў у сялян. Відаць, што ён і жыў нябедна, бо яго дочкі паскончалі гімназію.

Сярод членаў сям'і былога карчмара адчуваецца няпрыязьнь да местачковых „балмэлохэс“ (рамесьнікаў), якія, паводле выразу карчмара, „пайшлі цяпер угору“. Часта дзеці карчмара ўспамінаюць свой ранейшы „іхус“ — шляхецкі гонар у мінуўшчыне. Трэба ведаць, што да рэволюцыі яўрэй-крамнік, карчмар ці гандляр і яўрэй-рамесьнік былі між сабою вельмі аддалены. Крамнікі і гандляры лічылі сябе вышэйшай пародай, нібы шляхта, а рамесьнікаў называлі „прастатой“, „хамулай“, з апошняй ніколі не радніліся і не ўваходзілі ні ў якія сувязі.

У дарэволюцыйныя часы, каб дачка крамніка вышла замуж за каваля ці шаўца, дык гэта быў-бы такі прыблізна „мэзальянс“, як-бы прынцэса пабралася з пастухом.



На койданаўскім рынку (ганчар з пасудаю)

Вось такімі былымі прынцэсамі сярод пастухоў адчуваюць сябе цяпер дочкі карчмара. Часта бачу іх з кніжкаю ў руках на адным з ганкаў карчмы. Кніжка—толькі дэкорацыя для вачэй местачкоўцаў. „Барышні" сядзяць і мараць. А навакол пячэ горачае чэрвеньскае сонца. Базарная плошча сьпіць мёртвым сном.

Пасярод плошчы стаіць вялізная будыніна з былымі крамамі (здаецца, 65). Цэлы шэраг зачыненых кованых дзьвярэй. Сьпіць гэтае мёртвае сэрца або патухшы вулькан былога гандлярскага мястэчка. Каля крамных дзьвярэй дзе-ні-дзе стаяць былыя крамнікі са столікамі: прадаюць папяросы, ліманад, квас, цукеркі, школьныя сшыткі, алоўкі, хустачкі.

У цэнтры крам—высокая пажарная каланча. З боку—студня з вялізным пажарніцкім чанам. Рыпае студня жалезным рыпам,—і пад сьпевы яе мараць па ганках шляхетныя дочкі карчмара і іншыя дочкі такіх-жа шляхетных бацькоў. І ўвечары адпраўляюцца спацыраваць да старага замка.

З абкружанай сьцяною, з бойніцамі, якія дзе-ні-дзе яшчэ цалкам захаваліся, з цяжкай брамай у цэнтры, з рэшткамі стагодніх прысад, гэты замак сапраўды аддае балядамі старажытнага княжацкага ўладарства на Беларусі.

Пустыя крамы ў цэнтры мястэчка і замчышча ў яго канцы—сымболь навекі загінуўшай мінуўшчыны розных эпох.

Народны дом, коопэрацыя, сямігодкі, рабочы клюб у мястэчку, яўрэйскія с.-г. арцелі за мястэчкам—сымболь таго новага, што шпаркім крокам ідзе наперад, што глыбокімі карэньнямі ўмацоўваецца ў стара-новай зямлі.

## „Каравул! мяне залічылі ў кулакі".

Прыблізна з такім выкрыкам адрэкомэндаваўся мне адзін стары яўрэй з рыжавата-сівай бародкай.

— Мне казалі, што вы з газэты, што вы—рэдактар. Хачу з вамі пагаварыць!

Па мястэчку былі пушчаны пра мяне розныя легендарныя чуткі. Я—ні то нейкі „камісар па сакрэтных справах", ні то рэдактар газэты, і людзі пачалі да мяне падыходзіць з рознымі вымаганьнямі і скаргамі...

Кулак-яўрэй быў абарваны, абшарпаны і зашмальцаваны. Па ўсім відаць, што ён, шануючы мяне, апрануў свой парадны, „пролетарскі" касьцюм. Ваш мэтод правільны, дзядзька! Я бачыў і ў Менску такое зьявішча: адзін профэсар перад тым, як пайсьці ў рабочы клюб, памяняў капялюх на рабочую кепку.

З гутаркі заможніка-койданаўца выйшла, што ён вельмі пакрыўджаны: яго, былога члена койданаўскага гарсавету, залічалі цяпер у кулакі. Ён карыстаўся наёмнай працай, бо сам слабы чалавек, а яго сын вучыўся... Было ў яго пяць кароў, дык адна карова яго дачкі замужняй, другая—сына нежанатага... А наогул ня было як жыць з зямлі, дык ён яшчэ трымаў пару коняй і займаўся возкай—вазіў да станцыі тавар з фабрыкі „Слонь"—фабрыка яго роднага брата. Дык вось налажылі на яго вялікі падатак, дзеля чаго трэба было дзьве (а можа тры) каровы прадаць.

Засталіся толькі дзьве каровы—яго дачкі і сына...

А ён такі бедны, што вось, паглядзеце, у якіх абарваных вопратках апрануты...

За ўвесь час маёй бытнасьці ў Койданаве гэты чалавек зрабіўся маім ценем. Увесь час ён вядзе агітацыю ў адзін бок: ён—ня кулак, яго пакрыўдзілі, яму мсьцяць.





**м. Койданава.**
**Зьверху—помнік барацьбітом за вызваленьне Беларусі ад белапалякаў.**
**Зьнізу—народны дом.**



## Абрам Эвенчык.

У райвыканкоме раілі мне пазнаёміцца з т. Эвенчыкам, койданаўскім старажылам, старым бундаўцам. Я пайшоў да яго ў арцель краўцоў, дзе ён працуе.

Абрам Эвенчык—высокі, сутулы, сівы стары з бронзавым, нібы высечаным тапаром, тварам, з добрадушнымі вачыма. У яго рухах адчуваецца ўпэўненасьць і цьвёрдасьць. Здаецца, што ён у любую хвіліну гатоў пайсьці на любую працу, ня гледзячы на тое, што яму цяпер пад 60 год. Ён добра знаёмы з яўрэйскай літаратурай пэрыоду 1905 г. Ведае бадай усіх натуршчыкаў-койданаўцаў пісьменьніка Рэйзіна, любіць Шолам-Алэйхема. Ён ведае шмат кавалкаў з гісторыі рэволюцыі 1905 г. і раней.

Ён успамінае койданаўскіх будаўнікоў Кітаевіча, Волаха і іншых яшчэ да рэволюцыі 1905 г. У тыя гады краўцы організавалі забастоўку. У той-жа час была організавана забастоўка на фабрыцы запалак Стронгіна. Было арыштавана 65 рабочых. Кітаевіча і Эвенчыка выслалі ў Сібір.

У маскоўскай турме Абрам Эвенчык пазнаёміўся з Фэліксам Дзяржынскім, калі той уцякаў з Сібіры ўжо ў трэці раз.

Аднаго разу Эвенчык у турме сустрэўся з рэволюцыянэркай Марыяй Залуцкай. Яна сказала Эвенчыку, што калі ён будзе ў перасыльнай турме, то няхай запытаецца, ці ёсьць там Фэлікс.

Марыя вазіла з-за меж літаратуру, яе арыштавалі, і яна сядзела разам з Дзяржынскім $2^1/_2$ гады ў Варшаўскай цытадэлі. За ўвесь гэты час ні разу ня бачылі адзін аднаго. Яны толькі перастукваліся. І такім чынам,—сказаў Эвенчык,—Фэлікс вучыў Марыю польскай мове. Ён расказваў ёй усю гісторыю Парыскае Комуны.

І вось Марыя прыехала ў перасыльную турму. Тав. Эвенчык сказаў Дзяржынскаму, што Марыя прыехала.

— Няўжо-ж Марыя?!—зьдзівіўся Дзяржынскі.

І пасьля такога доўгага знаёмства яны ў першы раз пабачыліся. Умовіліся аб наладжаньні пабегу.

Паміж іншым, Фэлікс расказваў Эвенчыку аб сваіх уцёках з Якуцкай вобласьці: прыходзілася сядзець у лесе на дрэвах абарванаму, галоднаму.

Эвенчык многа расказваў таксама аб „Койданаўскай рэспубліцы", калі банда разагнала ў 1920 годзе койданаўскі рэўком. У пабудове „Койданаўскай рэспублікі" прымалі ўдзел вакольная шляхта, багатыя сяляне, багатыя яўрэі.

„Рэспубліка" існавала 4 дні. Невялічкі чырвоны атрад разагнаў яе главароў.

Кожны вечар Эвенчык расказваў мне нешта новае. Ён ад усяго сэрца сьмяяўся, апавядаючы мне аб адным балю:

Пры другім прыходзе палякаў (кавалерыя) койданаўскія багачы ладзілі ім баль. У адным з вялікіх дамоў прыцягнулі шмат віна, смажылі, пяклі, пяклі і смажылі. Але вось у мястэчку раздаўся стрэл. „Прышла „бальшавіцкая" разьведка з трох чалавек. Польская кавалерыя ўцякла. На баль прышлі чырвонаармейцы. Закуска яшчэ была гарачая, а віно нечапанае...

Пад вечар мы з агрономам выехалі з мястэчка.

Здалёку мне ківаў галавою той, каго „нясумленна" залічылі ў кулакі. Ён нешта гаварыў у мой бок, але ў базарным тлуме ня чуваць было. Я толькі здагадваўся:

— Не забудзьце там у Менску аб маёй справе!—пэўна крычаў ён мне на разьвітаньне свой наказ...

# НА КАГО МНЕ ВУЧЫЦЦА?

Нарыс РЫГОРА ЛАХМАТАГА.

Фото У. Азерскага.

Выразна, беспамылкова вызначыць свае сілы і здольнасьці, намеціць свой далейшы жыцьцёвы шлях і абраць сабе профэсію здолее далёка ня кожны чалавек. Вось чаму мы часта нагляд аем дужа цікавыя рэчы:

Людзі, якія паказалі сябе пэўнымі няздарамі ў аднэй справе, раптам выяўляюць проста-такі геніяльнасьць у іншай. Кепскі шорнік часам абяртаецца ў выдатнага механіка, зубны лекар вынаходзіць новы такарны варштат. Выбар профэсіі — справа сур'ёзная і вельмі складаная.



Апарат для вывучэньня шпаркасьці рухаў.

— Куды ісьці? — пытаецца моладзь, што скончыла сямігодку. — На каго вучыцца?

Перад ёю — дзесяткі шляхоў і магчымасьцяй.

Адны — імкнуцца папасьці ў ВНУ і працягваць сваю асьвету, але ніяк ня здолеюць зрабіць рашучы выбар між мэдфакам і фізматам; іншыя — гараць жаданьнем пайсьці на завод, але таксама ламаюць галаву, думаючы: якую абраць сабе профэсію? І токарам хочацца быць і электрычнасьць цікавіць. Што лепей?

Гэтыя індывідуальныя пытаньні ў агульнай сваёй масе няўхільна ўпіраюцца ў адно з важнейшых дзяржаўных пытаньняў — у пытаньне падрыхтоўкі кадраў.

Нам патрэбны моцныя працаўнікі. Нам патрэбны спэцыялістыя ва ўсіх галінах прамысловасьці і сельскае гаспадаркі, і таму справа вылучэньня кадраў, накіраваньня іх сіл і здольнасьцяй у патрэбным напрамку мае выключную важнасьць.

## Аналіз чалавека.

Тры невялікія пакоі, рад столікаў і лавак, дзесяткі складаных і незразумелых апаратаў — вось усё, чым на першы погляд зьяўляецца Менская псыхотэхнічная лябораторыя.

Псыхотэхніка — навука параўнальна маладая. У перакладзе на звычайную агульна-зразумелую мову яе можна назваць так:

„Навука, пры дапамозе якой выяўляюцца ўсе сілы і здольнасьці чалавека".

Менская лябораторыя існуе ўжо некалькі год. Яна прапусьціла мноства людзей, галоўным чынам моладзі, даўшы ёй параду, паказаньні. Часта ў лябораторыю разам з моладзьдзю зьяўляюцца і пажылыя солідныя людзі.

— А ну, браткі, вывучыце мяне! Хачу ехаць вучыцца, ды баюся — пораху ня хопіць. Памяць нешта не тае...

І вось тут-та і пачынаюцца „мытарствы". Перад усім таму, хто вывучаецца, задаюць дзесяткі тры запытаньняў: хто ён, дзе працуе, чым захапляецца, чаго ня любіць і г. д. Тады яго засаджваюць за парту і прымушаюць вырашыць як мага хутчэй невялічкія задачы. Потым прапануюць закрэсьліваць на паперы пэўныя літары, — і гэта таксама хутка, у пэўны тэрмін. Пасьля ўсяго кладуць перад ім невялікі малюнак, а ў канцы пакою выстаўляюць вялізарную карціну, надзіва падобную да тае, што ляжыць перад ім на парце.

— Глядзеце ўважліва на абедзьве карціны... Запомніце і падкрэсьліце розьніцу, — тлумачыць лябарант і выносіць вялікую карціну у другі пакой.

Такім мэтодам вывучаецца сіла зрокавае памяці. Кожны выяўляе сябе па-свойму. Адзін заўважыць розьніцу ў пабудове комінаў і бальконаў, зусім не зьвяртаючы ўвагу на дробязі, іншы падкрэсьліць вераб'я, што сядзіць на дрэве, але... не заўважыць балькона, а потым — зьдзівіцца:

— Як-жа гэта так? Вераб'я ўбачыў, а балькона не заўважыў!.. От дзіва!

Пасьля ўсяе процэдуры вывучэньня разумовае адаронасьці на паперы пераходзяць да апаратаў.

Пры дапамозе асаблівых, даволі складаных прылад вывучаецца вокамер, сіла ўдару, трапнасьць, шпаркасьць рухаў і г. д., а тады ўжо дасьледваны трапляе ў распараджэньне ўрача.

Праз колькі дзён на грунце назіраньняў і адпаведных высноваў запаўняецца так званая псыхограма з поўным пералічэньнем здольнасьцяй дасьледванага, а тады даецца і парада:

„Вам лепей за ўсё ўзяцца за сьлесарства. Ёсьць вокамер. Добрая сіла ўдару".

Або:

„На трамвай ня ідзеце, з вас будзе кепскі вагонаважаты. Няма шпаркасьці рухаў, кепскі зрок".

Як-жа ўспрыймаюцца гэтыя парады?

Адны — хвалююцца, спрачаюцца, не згаджаюцца з высновамі лябораторыі, другія — выходзяць з цьвёрдым рашэньнем узяцца акурат за тую справу, да якой яны больш усяго здольны. Яны ўжо не сумняваюцца, якую ім трэба выбраць профэсію. Яны ведаюць свой далейшы шлях.

## Хачу быць шофэрам.

Надоечы, з які месяц, у памяшканьне лябораторыі ўвайшоў цэлы натоўп моладзі, шумлівае і вясёлае.

— У чым справа? — зьвярнуўся да хлопцаў лябарант.

— Дык вось, шофэры мы... Аўтокіраўніцтва прыслала... Паглядзеце, ці здольны мы.

Іх узялі „ў работу". Пачалі з кубікаў. Кожнаму далі кучу дзіцячых кубікаў розных колераў і прапанавалі скласьці з іх адзін вялікі куб з такім разрахункам, каб усе бакі яго былі аднолькавага колеру. Галоўнае — шпаркасьць і кемкасьць.

Усьміхнуліся хлопцы.

— Янка, а Янка... пойдзем у цацкі гуляць...

А тады, як убачылі, што з „цацкамі" зусім ня так лёгка справіцца, — сьмірненькімі зрабіліся. Узяліся за справу больш сур'ёзна.

Асабліва здорава ўпрэлі каля дошкі Гізэ.

Гэта вялікая дошка абвешаная рознакаляровымі электралямпкамі, з



Практыкаваньне з кубікамі.

рознымі званкамі, трашчоткамі, гірамі, якія раптам падаюць уніз і з усялякімі іншымі „неспадзеўкамі“. Будучых шофэраў пасадзілі на крэсла супроць дошкі, ды тлумачаць:

— Званок... Катастрофа. Націсьнеце гэту кнопку. Агонь— значыць гэтая кнопка. Трашчотка затрашчыць—гэта значыць сутычка, цягнеце за шнур, дзейнічайце момантальна.

Мерна заракатаў мотор. Адна за аднэй успыхвалі на дошцы электралямпкі, праразьліва рассыпаліся дробненькія званочкі, з грукатам падалі гіры.

— Катастрофа!.. Няшчасьце!.. Сутычка!.. Жыцьцё тысяч людзей у небясьпецы!..

Ля дошкі шофэры кідаліся з боку ў бок у вялізарным напружаньні. Рукі шпарка пералётвалі з кнопкі на кнопку, сыгналы тузалі нэрвы.



Каля дошкі Гізэ.

Вымагалася шпаркасьць рухаў, кемкасьць і памяць. Буйныя кроплі поту выступулі на тварах. Апарат рээстраваў кожны рух, адзначаў яго шпаркасьць з дакладнасьцю да аднае тысячнае часткі сэкунды.

Скончыліся іспыты...

Уздыхнулі з палёгкаю...

І тады.

— Цьфу-ты, д'ябал, Ну і цяжкая-ж. От табе і цацкі".

І потым, праз дзён колькі, калі лябораторыя, на грунце псыхограм, дала свае высновы,—вышла няпрыемнасьць.

Асабліва гудзеў ды скардзіўся комсамолец Грыб.

— Чаму мяне забракавалі?

— Таму, што вы будзеце кепскім шофэрам, адказалі яму.

— От табе і на... То што-ж мне рабіць?

— Ідзеце вучыцца мэханіцы... у тэхнікум. У вас вялікая разумовая адаронасьць.

— А я хачу быць шофэрам,—упіраўся Грыб.

Доўга спрачаліся. Грыбу хацелася кіраваць машынаю, а псыхотэхнікі раілі яму вучыцца, узяцца за мэханіку.

— Добрая справа. Вынайсьці машыну я магу, а шофэрам быць ня здолею. Як-жа гэта так?—настойліва гудзіць Грыб, зьдзіўлена ўздымаючы ўгору свае бровы.

У адказ звонкі сьмех лябарантаў. Яны толькі яшчэ больш пераканаліся ў правільнасьці сваіх вывадаў, пераканаліся, што Грыбу парада вучыцца дадзена зусім не памылкова.

Праз пару дзён Грыб капітуляваў. Ён ужо і глядзець н… хоча на аўтомобілі. яго ня цікавяць зграбныя кабінкі аўтобу… саў, і нават да скураное тужуркі Грыб выяўляе поўную абыя… кавасьць.

Надоечы, дзён колькі, прышоў ён у лябораторыю і зрабіў… адзін проект дужа патрэбнага для лябораторыі апарату. Вынаходка прынята, Грыбу дадзены заказ. Малады хлапчына са… праўды выявіў вялікія разумовыя здольнасьці,—ён вынаходц… яго прэміявалі.

Значыць, лябораторыя не памылілася.

* * *

Парада і кірунак, які дае лябораторыя тым, каго яна… сьледуе, спраўджваюцца працантаў на 60—75. Дзьвесьце б… прытульных, паводле вымаганьня Меншвэю, прайшлі іспыт… толькі некаторыя з іх былі забракаваны. Рэшта—з рабо… спраўляецца някепска.

Менская псыхотэхнічная лябораторыя зьяўляецца адз… БССР, яна прапускае сотні людзей, дае ім патрэбныя г… і тлумачэньні. Лябораторыя моцна зьвязана з Юнсэкцыя… Біржы Працы, мае шэраг каштоўных вопытаў і работ. Кеп… толькі, што такая лябораторыя ў нас у БССР толькі ад… Ня кепска было-б псыхотэхнікай карыстацца пры кожнай Б… жы Працы. Нашы будучыя маладыя кадры ад гэтага тол… выйгралі-б.

## ДЫКТАТУРА ПРАЦЫ.

*Культуру хамства і даляра,*
*Князёў і біскупаў палацы,*
*Ад Скандынаваў да Сахары,*
*Зруйнуеш, дыктатура працы.*

*Сьвет рабаўласьнікаў і турмаў,*
*Сьвет богахвальства, спэкуляцый*
*Маланкай дызэляў віхурнай*
*Падпаліш, дыктатура працы.*

*Насельнікаў зямлі вячыстай,*
*Што звыкліся ў крыві купацца,*
*Сярпом і молатам агністым*
*Зруйнуеш, дыктатура працы.*

*Закон і права ў долі роўнай*
*Для ўсіх народаў, для ўсіх нацый*
*Рукой жалезнай, непакорнай*
*Напішаш, дыктатура працы.*

*Жыцьцё бяз цемры і цярпеньня*
*А ў ясным сонцы, як у байцы,*
*Для ўсіх вякоў і пакаленьняў*
*Збудуеш, дыктатура працы.*

**Янка Купала.**



Якім будзе унівэрсытэцкі гарадок у Менску.

# АДЗІНАЦЦАЦЬ ГОД БССР—АДЗІНАЦЦАЦЬ



ПАСЬЛЯ РУІНЫ ІМПЭРЫЯЛІСТЫЧНАЕ ВАЙНЫ, ПАСЬЛ
З ЮНКЕРСКА-КАЙЗЭРАЎСКАЙ ЗГРАЯЙ І З БЕЛАПАНСКІ
ЗМАГАНЬНІ З КАПІТАЛІСТЫЧНЫМІ ЭЛЕМЭНТАМІ ЎН
ПРОЛЕТАРЫЯТ ЧЫРВОНУЮ СТА



ПАД УДАРАМІ ПЕРАМОЖНАГА СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА ПАМІРАЕ СТАРЫ, СЯРЭДНЯВЯКОВЫ ГУБАРНАТАРСКА-АРХІРЭЙСКІ „ГОРОД МИНСК“.



ЦЦАЦЬ ГОД ПЕРАМОЖНАГА БУДАЎНІЦТВА.

ФОТО Л. ДАШКЕВІЧ



...СТЫЧНАЕ ВА...Ы, ПАСЬЛЯ ЖОРСТКІХ КЛЯСАВЫХ БОЕК ...Й ЗГРАЯЙ З... ПАНСКІМІ ДРАПЕЖНІКАМІ, У ЗАЎЗЯТЫМ ...ЧНЫМІ ЭЛЕ...НТАМІ ЎНУТРЫ НАШАЕ КРАІНЫ БУДУЕ ...ТАРЫЯТ ЧЫ...НУЮ СТАЛІЦУ БССР.





З ДНЯ Ў ДЗЕНЬ, З ГАДЗІНЫ Ў ГАДЗІНУ—УЗДЫМАЕЦЦА ЎСЁ ВЫШАЙ І ВЫШАЙ, ВЫХОДЗІЦЬ З РЫШТАВАНЬНЯЎ НОВЫ МЕНСК—ДЗІЦЯ ПРОЛЕТАРСКАЕ ДЫКТАТУРЫ.

# ПА СОНЕЧНЫМ ШЛЯХУ

**Нарыс В. СТАШЭЎСКАГА.**

— Вось праедзем крыху,—кажа нам балагол,—а там будзе простая дарога аж у самыя Сосны. Гэтае „крыху“ складае добрых два дзесяткі кілёмэтраў і ўецца між хмызьняку і лесу, нібы вужака.

Мы едзем.

Амаль зусім падпіразваем залацісты жытні астравок. Мы заглядаемся на постаці жней, яны на нас, і раптам штось зрывае нашы шапкі. А гэта дуб сваім гальлём прымушае нас схіліць свае галовы перад ім. Схіляем, схіляем. Пакуль што ён уладар на гэтым шляху да простае дарогі. А колькі-ж яго тут і пагніло! О, як патрэбна простая дарога, каб ня даць яму загінуць тут! Мы едзем і гутарку вядзем з дубамі, бярэзьнікам, соснамі... Беларускі лес многае можа расказаць. Трэба толькі ўмець слухаць, уважна слухаць.

Перад намі сенажаць. Стагі. Спакойна стаяць стагі. Тонканогія буслы вартуюць іх спакой. Яны паважна ходзяць, паглядаюць на свае вялізныя абшары. Грукаюць калёсы нашае фурманкі, гукаем мы, а яны нібы зусім не заўважаюць нас.

— Абшарнікі!—крычым.

Нічога. Іншы падыме галаву, а іншы дык зусім адвернецца. Недалікатныя бываюць. А ўсё-такі мы ня злуемся, мы прыемна ўсьміхаемся. Яны песьцяць нашы вочы. Гэта-ж цудоўныя лілеі на зялёна-шэрых прасторах.

Хістаюцца драбіны. Калыша нас палеская дарога. Прыветна, лёгенька хістаецца хмызьняк.

А там, за ім, нясьмела выглядаюць хутары. А мо' гэта стагі? Не, хутары. Далей, бліжэй. А-а, здароў. Вось ён, знаёмы, белакрылы: на гумне збудаваў сабе хату. І хто адважыцца чапаць яго?..

Ніхто!

Ён-жа сьмялейшы за гаспадара хутару.

А гаспадары тут розныя. Некаторыя, відаць, ніштавата жывуць. Сярод саламяных, гонтавых і дранковых стрэх часам сустракаецца і бляшаная страха. Вядома, гэта зьява зусім нядаўняга часу, значна пазьнейшага за песьню „чубарыкі-чубчыкі“.

— Ну, што, далёка яшчэ простая дарога?

— А блізка ўжо: за тым ляском будзе масток, а за мастком мы возьмемся ўправа, а там, праехаўшы—налева крыху завернем і так павалі выедзем,—адказвае нам балагол.

Калышыць нас драбіна. Выяжджаем за лясок і за масток.

На невялічкім астраўку, сярод ячменю, бульбы, жыта і аўса, горда стаяць, у бокі ўзяўшыся, пшанічныя бабкі. Будуць булкі—добрая пшаніца.

— А гэта, што,—адказвае нам балагол,—пабачыце, што там, у Соснах. А вунь і простая дарога.

Перад нашымі вачыма бярозавая арка. Яна пачынае простую дарогу. Арка, наогул, нагадвае аб урачыстасьці. Арка сярод лесу, на балоце, кажа нам аб нейкай асаблівай урачыстасьці. Мы моўчкі пад'яжджаем. Далей ідзе шырокая, пясковая дарога.

— Цяпер паедзем проста, проста.

— А раней як езьдзілі?



**Новая дарога на асушаным балоце (Мар'інскі масыў).**

— Ніяк. Тут нават рэдка хто хадзіў.

Перад вачыма шырокія, роўныя прасторы. Здалёк віднеюцца на іх роўненьнія, чорныя істужкі. І чым далей мы едзем, тым гэтых істужак становіцца ўсё больш і больш. Гэта—простыя вадзяныя дарожкі-канавы. Палеская вада доўга чакала гэтых дарожак. Гэты час прышоў, і яна рушылася.

— Гэй, трымайся, Арэса! Да цябе накіраваліся мар'інскія вадзяныя дарогі. Стаячая шматвяковая вада рушылася.



**Новыя каналы на Мар'іне.**

Мы едзем па шырокай простай, сухой дарозе. Перад вачыма лясісты востраў. Абапал дарогі, між гэтых вадзяных дарожак, разасланы пышныя аўсяныя, ячменныя, бульбяныя, ільняныя дываны. Гэта ня вузкія сялянскія істужкі, а шырачэзныя, на дзесяткі гектараў дываны. Ня марыла Мара, былая ўладарка гэтых балот.

Ня верылася многім з нас. Цяпер гэта простая дарога. Дарога ў соцыялістычную гаспадарку.

Слава вам, хто ўмее ткаць такія цудоўныя ўзоры!

* * *

На другі дзень мы па шырокай канаве. Абапал зялёнакоўдрыя аўсы. Паўз іх, беражком канавы ідуць вузенькія сьцежачкі. Гэта нібы нейкія жывыя істоты, якія балюча ўгінаюцца, калі ступаем, і толькі перастаўляем нагу, яны зноў стараюцца выраўняцца. Спачатку нейк дзіўна адчуваеш сябе, здаецца, шкада ступаць па іх. Жывая зямля.

Ціха, урачыста ідзе вада. Спакойна стаяць аўсы. Цішыня. Балотная цішыня. Яна зусім адрозьніваецца ад лясное цішыні. Цішыня ў лясных нетрах часам павявае нейкім неспакоем, нават трывогаю, а тут нейкая лагодная цішыня. Нам здаецца, што і аўсы і вада ў канавах прыслухоўваюцца да кожнага чалавечага кроку. На сьцежцы нязьлічоныя мільярды нейкіх белых мошак. З кожным нашым крокам яны ўзьлятаюць, даюць нам дарогу, але вялікая колькасьць іх прыліпае да нашага адзеньня.

А сонца пячэ. Духата. Праходзім дзесятак кілёмэтраў. Крыху аднастайна. Нейкая стэпавая роўнядзь. Мне ўспамінаецца леташняя паездка з украінскімі пісьменьнікамі ад Днепрапятроўску да Запарожжа. Мы праяжджалі па роўнай, бязьлеснай плошчы, стэпам. Страшэнна было горача. Ад чорнага пылу мы рабіліся нейкімі чорна-скурымі. Мае думкі пераскаквалі у свой родны лясок, на прыгожыя палянэчкі, на грэбелькі і рэчкі з дрыўлянымі масточкамі.

— Не ўяўляю сабе,—кажу я,—як гэта жывуць людзі ў такой пустэльні? Нідзе ніводнага дрэўца. Гола, аднастайна.

— Нэ можу уявить собі, як цэ можно житі у лісі?—кажа паэта Юры Яновські.—Там нэ мае воко ніякого простору. Всэ зачынэно.

Мы доўга не спрачаліся, бо ўсёроўна ніводнаму з нас не ўдалося-б пераканаць другога.

Але наша стэпавая роўнядзь не такая ўжо вялікая. Перад вачыма віднеецца лес. А зялёнае аўсянае мора, замест гнілое балотнае вады і дзікае травы, прыемна ласкае вока падарожніка. Мы перакідваем з пляча на пляча свае торбачкі, страсаем з ілба каплі поту і едзем далей. Да нашае канавы справа і зьлева далучаецца яшчэ некалькі канаў, і яна такім чынам робіцца больш паўнаводнаю і крыху нагадвае рэчку. Прайшоўшы так званы асінавы мосьцік, мы спыняемся, каб адпачыць і закурыць. Прыкурваем і кідаем пад ногі сярнічку. Не пасьпелі мы дакурыць, як заўважылі ля сваіх ног дымок. Ад кінутае намі запалкі загарэлася зямля. Ліквідуем гэты „пажар“, праходзім некалькі крокаў і бачым вялізную, высмаленую лапіну зямлі. Гэта была яшчэ сьвежая лапіна і пахла тысячагодняю расьліннасьцю балота.

Да нас даходзяць далёкія гукі, падобныя да гукаў малатарні. Ідзем далей і ўжо выразна распазнаем гукі сталёвых коняй. Аўсянае поле засталося ззаду. Паабапал нас ляжалі дзірваны ўзадранае травяністае глебы, а далей, перад вачыма, перад лесам—травяністыя прасторы, па якіх нібы чорныя жукі поўзалі трактары. Іх тут было абапал канавы адзінаццаць штук.

Непадалёчку хлопцы з вёскі Кузьмічы пасьвілі свае коні. Забаўляюцца сабе хлопцы, седзячы ў гурце. Памахваюць хвастамі коні, ходзячы ў гурце. Відаць, што яны ніштавата сябе адчуваюць. Яны дачакаліся надзейнае зьмены. На іх цяпер будуць ускладзены больш лёгкія абавязкі. У новай гаспадарцы коні атрымаюць іншае прызначэньне, далёка не такое, якое мелі ў гаротнага беднага селяніна. Машына вызваляе ад пакуты ня толькі гаротнага чалавека, але і яго добрага сябра-каня.

— А ці далёка яшчэ да Арэсы?

— А яшчэ каля дзесяці вёрст,—адказвае нам трактарысты, які сядзеў пры канаве і чакаў свайго часу, каб зьмяніць свайго таварыша.

На балоце страшэнная парнасьць. Так і хочацца вылузацца са свайго адзеньня і шабулдыхнуцца ў ваду. Згушчаліся на небе шэрыя хмаркі. Перад намі ўвесь час круцілася ў нейкім шалёным танцы вялікая куча машкары. Пахла дажджом. Апошнімі каплямі нарзану прамываем свае вусны і набліжаемся да лесу.

Тут ужо канава набыла памеры ніштаватае рэчкі. З густога алешніку выцякала крынічка. Мы, стомленыя духатою, прыселі на паваленае дрэва, каб крышку адпачыць, напіцца сьвежае вадзіцы. Арэса недалёка. Было каля 3 гадзін дня. Нам, здаецца, можна было-б і не сьпяшацца, але на гэты час пачала насоўвацца цёмная хмара. Тут-жа вялялася дрывеснае гнільлё. Распаранае сьпякотаю, яно напаўняла лес страшэннаю задухаю. Гэты балотны лес пад цёмнаю хмараю, пах гнільля і сапраўды мёртвая ціш прыдушваюць чалавека, і яму хочацца вырвацца адсюль на больш прасторную, больш ясную мясьціну.

Мы выйшлі на палянку і ўбачылі хутар. Ён быў крышку ў баку ад нашага маршруту, але гэта было пэўнае месца, дзе можна было схавацца ад надыходзячага дажджу. Толькі мы прыпалі да калодзежу, паскідалі сарочкі, каб прыняць халодны душ з вядра, як раптам лупянуў такі душ, ад якога мы, не пасьпеўшы адзець сарочак, павінны былі ўцякаць у сенцы.



Трактар на асушаным балоце.

Гэта была тыповая палеская хата з шэрымі, няпрытульнымі сьценамі з крывымі зэдлікамі і ложкамі на крывой падлозе, з жорнамі і іншымі прыладамі старажытнага паляшука. Аднак у гэтай няпрыветнай хаце знайшлася прыветная гаспадыня, якая накарміла нас вельмі смачным кіслым малаком. Пакуль мы спаражнілі міску хмара праскочыла, і на дварэ зноў прамянілася ліпеньскае сонца і цалавала сьпелае жытняе калосьсе.

А дробнае на гэтым хутары жыта, рэдзенькае, сьвеціцца. Мы праходзім палянку, гэтую выспу і трапляем на Арэсу, у штаб „вадзянікоў“—у штаб воднікаў.



Балота перад асушкай.

На правым беразе гэтае натуральнае воднае артэрыі стаяць два новых будынкі, а на самой рэчцы віднеецца сьвежанькая брандвахта. Гэта—плывучы жыльлёвы, нават двухпавярховы будынак. У ім ёсьць спэцыяльны пакой для прыежджых.

Нам хочацца хутчэй пабачыць тыя машыны, якія кілзаюць Арэсу, каб павесьці яе, часам, па іншым напрамку. Кантора, у асобе кіраўніка работамі, студэнта нашае сельска-гаспадарчае акадэміі, дае нам мажлівасьць, вызначае аднаго хлапца і прадастаўляе чайку. Мы едзем уверх па Арэсе да бліжэйшае зямлячарпалкі. Босы хлапец, з якім мы ехалі, быў студэнтам Менскага політэхнікуму. Ён тут адбываў сваю практыку, праўда, яшчэ першы год, але, відаць, што ён цікавіцца сваёй работаю і ахвотна расказвае нам аба ўсім, што ведаў.

Тымчасам з галоўнага рэчышча мы зьвярнулі ў нейкае другое, відавочна, сьвежае. Берагі абапал былі пакрыты шэрай зямлёю. Усё гэта паказвае на сьлед нейкага пераможнага страшыдла. Калі мы ціха падплывалі да гэтага балотнага жалезнага волата, у гэты момант ён чамусьці змоўк. Мы занепакоіліся, што ня бачым яго рухаў, яго жыцьця. Рабочыя аглядалі яго зубы, шыю і сказалі, што хутка заварушыцца і пачне грызьці зямлю.

Не прайшло 5—8 хвілін, як ён сапраўды зварухнуўся, загуў, забразгалі ланцугі, ён расчыніў сваю ляпу і сваімі вострымі трыма зубамі ўрэзаўся ў зямлю і выплёўваў яе на бераг. І так пакрысе ён адгрызае і выкідвае кускі зямлі, і так рытмічнымі крокамі пракладвае ён новае рэчышча.

Ціха плыве наша чайка назад да плывучага дому. Мы дзелімся сваімі ўражаньнямі з кіраўніком работ. Ён малюе нам будучы рух на Арэсе з яе лайбамі і нават караблямі.

# ГЭТА БЫЛО НЕ ПАД ВЭРДЭНАМ

Нарыс БЯЛІНЫ-ПАДГАЕЦКАГА. Фото У. Азерскага.

ЗНАРАДЫ рваліся, кладучыся адзін каля аднаго і ствараючы сваімі выбухамі глыбокія ямы. Зямля гула ад артылерыйскага агня. І здавалася людзям у акопах, што ўсе пякельныя сілы, спушчаныя з ланцуга, адтанцоўваюць на нашай вар'яцкай плянэце свой дзікі танец. А горад з няпрыступнай цытадэляй панура стаяў сярод дыму і полымя, чакаючы вырашэньня свайго лёсу.

Гэта было ў 1916 годзе пад Вэрдэнам [1]).

А ў гэты час, у кілёмэтрах дваццаці ад перадавых позыцый, рота аднаго з францускіх палкоў, выведзеная з бойкі, адпачывала. Змардаваныя, атупелыя ад артылерыйскага грукату салдаты сядзелі за столікамі напаўзруйнаванага знарадамі шынка і прагна пілі з сваіх паходных пляшак толькі што разданае ім чырвонае, як сама кроў, віно.

Заўтра яны адыйдуць яшчэ ў больш глыбокі тыл, адыйдуць на даволі доўгі цалкам заслужаны імі адпачынак. З заўтрашняга дня, на працягу цэлых двух тыдняў, ня будуць яны чуць гэтага артылерыйскага грукату, ня будуць у працягу цэлых двух тыдняў дрыжэць кожную сэкунду за сваё жыцьцё.

— Пяхотны полк у поўным складзе перайшоў на бок ворага!—раптам, як маланка, пранеслася па шынку вестка.

— Тра-та-та-та-та!—грае гарністы ўсім добра знаёмы збор.

І сумным прадчуваньнем сьціскаюцца сэрцы салдат, якія толькі што прышлі на адпачынак з перадавых позыцый.

Яны не памыліліся ў сваім прадчуваньні.

— Узяць карабіны, мяшкі на плячо!—чуецца з усіх бакоў поўны грознага значэньня загад начальнікаў.

Тады пачаўся проста-такі кашмар. Шалёная язда ў цёмнай начы на аўтомобілях—язда праз калдобіны, праз ямы, па старанна ўзоранай артылерыйскімі знарадамі зямлі.

Усё бліжэй і бліжэй вэрдэнскае пекла... Усё бліжэй і бліжэй паласа крыві і сьмерці.

— Трэба запоўніць нашай ротай прарыў ворага,—чуваць сярод шуму і гулу тлумачальная каманда.

І далей цьвёрда і няўмольна:

— Гэй, наперад, у атаку на ворага!

Ня вытрымалі сэрцы змучаных, вымуштраваных двухгадовай вайной, людзей.

— Жыць, жыць!—кіпела ў іхных грудзёх.

— Жыць, а потым шго-б сабе ні было!..

У гэтую ноч нямецкае камандаваньне адзначыла ў сваім данясеньні добраахвотную здачу ў палон яшчэ добрае сотні пехацінцаў.

А сярод іх быў і рабочы Бака Марсэль—францускі салдат, якому асабістае жыцьцё было даражэй абароны чужых яму інтарэсаў імпэрыялістых.

* * *

— Дзэзртыр, ён дзэзртыр!..

Гэта думка ні ўдзень, ні ўначы не давала Марсэлю ані хвіліны спакою.

Значыцца, ніколі яму не вярнуцца на бацькаўшчыну, значыцца, там, рана ці позна, чакае яго ваенны суд і нямінучы... расстрэл.

А жыцьцё ў концэнтрацыйным лягеры для ваеннапалонных; сувязь з таварышамі, адурманенымі фанабэрыстым патрыётызмам, якія зьдзекваліся над ім, як над дэзэртырам; потым лісты ад сваякоў з папярэджваньнем, каб ён не вяртаўся ў Францыю,—усё гэта зрабіла сваю справу.

Марсэлю пачынае здавацца, што нейкія сакрэтныя агенты францускага ваеннага камандаваньня намагаюцца забіць яго, сьцерці з твару зямлі. Ён усё болей і болей замыкаецца ў сябе, унікае людзей, баіцца іх.

Ён ня вернецца на бацькаўшчыну. Ня вернецца, ня гледзячы на тое, што туга па гэтых родных краёх цалкам заўладала ім. Ня вернецца, ня гледзячы на замірэньні і, што пачалася ўжо рээвакуацыя ваеннапалонных. Гэта ён там, у Францыі, чакае яго ваеннапалявы суд і нямінучы—у 48 гадзін—расстрэл. Гэта-ж буржуазія—няхай то францускай ці нямецкая альбо расійская,—усёроўна ніколі не даруе „трусам". Ніколі не пападруе тым, хто адмовіўся да апошняе кроплі крыві змагацца за яе інтарэсы.

— У Расіі рэволюцыя,—кажуць Марсэлю салдаты з суседняга концэнтрацыйнага лягеру — расійскія ваеннапалонныя. — Хочаш ехаць з намі?

І Марсэль з прагнасьцю хапаецца за гэту прапанову расійскіх таварышоў. Ён тойма перабіраецца ў іхны лягер і хутка з чарговым эшалёнам пакідае межы Нямеччыны, накіроўваючыся ў процілеглы ад Францыі бок.

Тав. Бака Марсэль.

* * *

Канец 1918 альбо пачатак 1919 г.

Бака Марсэль—францускі салдат—у Менску.

Некаторы час ён працуе кашаварам у аднэй, што працавалі тады тутака, грамадзкай кухні.

А потым прышоў голад, беспрацоўе...

Няведаньне мовы, поўная адсутнасьць сяброў і знаёмых, страх перад тым, што яго распазнаюць і адправяць зноў у Францыю, дзе яго чакае расстрэл,—усё гэтае прымушае Марсэля ўнікаць людзей, бегчы з гораду, хавацца, хавацца, хавацца...

Як зацкаваны зьвер, блукае ён па вакольных вёсках, начуе ў лесе і ў полі, корміцца, чым папала. Як зацкаваны зьвер, упарта шукае ён сабе логава, дзе можна схіліць стомленую галаву, дзе-б хоць трохі можна было адчуваць сябе ў бясьпецы.

А думка аб крывавай расправе, што чакае яго на бацькаўшчыне, не дае яму спакою.

Нарэшце ён знаходзіць сабе прытулак. І знаходзіць яго... на хутары „Садкі" (Амяльянаўскі сельсавет, Смалявіцкага раёну, Менскай акругі) у кулака Зянькевіча, які прымае яго да сябе на працу.

У кароткім нарысе аніякай няма магчымасьці апісаць падрабязна пакуту Марсэля за 11 год яго працы на хутары Зянькевіча. Досыць будзе сказаць, што кулак, які на ўсе сто процантаў экспләатуе Марсэля, за ўсе 11 год не заплаціў яму за работу ні капейкі, што ён сьвядома трымаў яго ў цемры і няведаньні таго, як жыве цяпер краіна Саветаў.

А для таго, каб яшчэ больш прывязаць да сябе выгоднага парабка, каб яшчэ больш запужаць яго, яму гаварылі як найменей паказвацца на вочы людзям, бо інакай, бач, яго арыштуюць і адашлюць у Францыю, дзе яго чакае нямінучы расстрэл.

Марсэль зусім адзічэў за гэты час. Ніводнага разу за 11 г. ня быў ён у кіно. Усяго адзін-адзіны раз, і то выпадкова, быў ён на вясковай вечарынцы. У дадатак да ўсяго гэтага ён цярпеў ува ўсім страшэнную нэндзу.

Наколькі адзічэў гэты чалавек, які трапіў у кіпці хітрага кулака, можна бачыць па наступным: калі яго ўжо ў сьнежні

[1]) Вэрдэн—цытадэля ў Францыі, дзе ў 1916 годзе адбываліся асабліва крывавыя бойкі.

месяцы 1929 году запыталі, якая ўлада існуе ў Савецкім Саюзе, ён, доўга падумаўшы, адказаў: монархія.

А між тым адзінаццаць год назад гэта быў разьвіты чалавек: культурны французскі рабочы!

* * *

І вось што дзіўна, незразумела ўва ўсёй гэтай—фантастычнай, але, на жаль, з пачатку да канца праўдзівай—гісторыі

Усе ў раёне добра бачылі эксплёатацыю кулаком свайго парабка. І ніхто, ніхто за ўсе гэтыя адзінаццаць год ня ўзьняў пытаньня аб дзікай эксплёатацыі, не зацікавіўся яго лёсам, не запатрабаваў умяшаньня ў гэту абураючую справу органаў савецкае прокуратуры.



Кулак Зянькевіч, які 11 год эксплёатаваў т. Марсэля.

Ведаў пра гэта мясцовы сельсавет і маўчаў, хоць на адным з пленумаў яго і ўзьнімалася пытаньне аб Марсэлю. З чэрвеня месяца гэтага году актыўным селькорам быў паведамлены аб гэтым старшыня рэйвыканкому. Але ён налажыў на гэту справу сваю рэзолюцыю, нават не прасачыўшы праўдзеньня яе ў жыцьцё. Ведаў пра гэта ўжо даўно і сельгасінспэктар, які таксама не зрабіў ніякіх захадаў. І толькі напісаная селькорам корэспондэнцыя ў часопіс „Батрак", які пераслаў яе Менскай прокуратуры, урэшце дамаглася свайго

І гэта здарылася толькі ў пачатку сьнежня 1929 году, г. зн. больш адзінаццаці год пасьля прыезду Марсэля ў межы БССР.

А дзе-ж былі партыйныя, профсаюзныя, комсамольскія, грамадзкія організацыі раёну, што думаў праз усе гэтыя адзінаццаць год мясцовы сельсавет?

Але сельсавет і цяпер займаецца вельмі дзіўнай справай. Ён старанна сьведчыць подпісы сваіх грамадзян, якія па просьбе кулака Зянькевіча пішуць заявы, што быццам Марсэля ніхто не эксплёатаваў, што Зянькевіч абыходзіўся з ім „пачалавечаму".

Цяпер Зянькевіч арыштаваны, і прокуратура патрабуе ад яго выплаты парабку Марсэлю за 11 год працы ўсяго, што яму належыць.

Але, патрабуючы ад імя абуранае савецкае грамадзкасьці самай суровай кары кулаку-эксплёататару, нам здаецца неабходным прыцягнуць да адказнасьці і шэраг бюрократаў, якія дапусьцілі ў сябе на вачох гэту эксплёатацыю.

Іх трэба моцна ўдарыць па руках.

* * *

— То, значыць, мяне ня выдадуць Францыі, вы ўпэўнены ў гэтым?

Твар, яшчэ з хвіліну назад вясёлы і жвавы, адразу робіцца нейкім чужым, напружана-змучаным. Вочы пудліва бегаюць па баках. Вусны крывяцца ў жаласьлівую ўсьмешку.

— Я-ж нікому не зрабіў ніякага зла,—ціха гаворыць Марсэль.—Я толькі не хацеў паміраць за інтарэсы гэтых тоўстых грашовых мяшкоў. Я гэтак змучыўся!

І потым, набраўшы духу:

— Каб вы ведалі, як я іх ненавіджу!.. За што, за што яны маё жыцьцё загубілі, нашто было столькі мёртвых? А іх вось—тоўстаторбых—у траншэях мы ня бачылі!

За што, па чыёй віне разьбіта жыцьцё Бака Марсэля, чаму мільёны рабочых чатыры гады імпэрыялістычнае вайны забівалі адзін аднаго?



Вынікі знахарскага „лячэньня". Рана пагражала т. Марсэлю заражэньнем крыві.

Гэта пытаньне яшчэ ня зусім зразумелае францускаму салдату, хоць ужо ён цяпер знаходзіцца на пэўным шляху да яго ўсьведамленьня.

Трэба дапамагчы Марсэлю – нашаму брату па клясе усьвядоміць добра гэта пытаньне

Трэба на справе, давесьці яму, што ён знаходзіцца ў пролетарскай савецкай краіне, дзе эксплёатацыя чалавека чалавекам караецца сурова і бязьлітасна. Трэба ўцягнуць Марсэля ў наша грамадзкае жыцьцё, у рабочае асяродзьдзе. Трэба адкрыць перад ім цудоўную панараму нашага соцыялістычнага будаўніцтва, трэба запаліць яго патосам гэтага будаўніцтва.

тады Марсэль сам знойдзе адказ на сваё балючае пытаньне—за што ён пакутаваў і хто вінаваіца яго пакуты.

Сусьветная пролетарская рэволюцыя прыдбае яшчэ аднаго стойкага барацьбіта для будучых крывавых клясавых барыкад.

---

# ПАМЁР АКАДЭМІК Д. К. ЗАБАЛОТНЫ

16 сьнежня г. г. памёр прэзыдэнт Украінскай акадэміі навук Данііла Кірылавіч Забалотны.

Д. К. Забалотны нарадзіўся ў 1866 г. ў сям'і селяніна. Скончыў фізыка-матэматычны факультэт у 1889 г. і мэдычны факультэт у 1894 г.

З першых год савецкае ўлады супрацоўнічае з ёй. У часе наступу Юдэніча рэзка выступае на пасяджэньні Петраградзкага савету супроць белагвардзейцаў.

Апошнія годы нябожчык зьяўляўся прэзыдэнтам Украінскае акадэміі навук, правадзейным членам Усесаюзнай і Беларускай акадэміі навук, членам ВУЦВК і ЦВК СССР.

Шырокавядомымі зрабіліся яго вопыты імунізаваньня самога сябе халернымі забітымі вібрыёнамі. У 1897 г. ён вывучае чуму ў Індыі. Далей, ён прымаў удзел у навуковых экспэдыцыях у Кітай, Монголію, Пэрсію Аравію і Казакстанскія стэпы. У 1908 г. вывучаў эпідэміялёгію халеры на Волзе і ў Пецярбурзе. Агульная колькасьць навуковых прац больш за 80.

Д. К. Забалотны быў заснавацелем і ганаровым членам Мікробіолёгічнага т-ва ў Ленінградзе, членам-заснаваўцаю Міжнароднага т-ва мікробіолёгаў, членам т-ва па вывучэньні тропічнае паталёгіі ў Парыжы. У пачатку 1929 г. абраны правадзейным членам Беларускай акадэміі навук.

Галоўнымі працамі яго зьяўляюцца: „Матэрыялы аб чуме ў Індыі", „Досьледы па чуме", „Халерная эпідэмія 1908—1909 гг. у Пецярбурзе" і „Да пытаньня аб патогенэзе пранцаў".



Акадэмік Д. К. Забалотны за працай.

# Узбунтаваная зямля

Фэльетон Цім. ЗАРЭЧНАГА. Малюнкі Розанава



Ветры буйныя пранізваюць зімою сад. Марозы звонкія абымаюць дрэвы. Завірухі-сьнегапады кладуцца на кароткія плечы яблынь, вішань, ігруш.

А вясною зацьвітае сад. Галіны апранаюцца ў шоўкавую тканіну кветак. Кветадоньні раняюць пялёсткі на зялёны дыван травы.

Такія законы прыроды. Яны вымераны нязьлічонай колькасьцю вякоў і ніколі ня выйдуць з вызначанага кола.

. . . . . . . . . . . .

А у садзе тым царква стаіць. Зразумела, зацьвілая, з пазалотай, драуляная, з вясёлым купаламі, сумным крыжам. Вядома, „сьвятое сьвятых", з абразамі: хрысьціянскае, імя божае мацеры, з дарогамі ў пекла і сьцежкаю ў рай. Бязумоўна, патрыярхальная, з айцом Палундрыем, з адпушчэньнем грахоў і званаром Захарам. Чын-чынам,—вока за вока, зуб за зуб, дзедка за бабку, бабка за ўнучку,—правільная царква!

А побач з садам, супроць царквы, стаіць карчма. У карчме той мужыкі топяць няшчасьце і саміх сябе, калісьці працавітых, з марамі ў дзіцячыя гады і з ружовымі надзеямі ў хвіліны каханьня. Усё разьбіта, забруджана, шэра—прад вачыма пахудра-карчма, „сьветлая" радасьць днёў пакалечаных, любая чараўніца ачарсьцьвелага сэрца. Умее карчма слухаць дурнап'ян слоў мужычых, як сястра браценіка, як маці сына, меншага. Умее слухаць, умее браць карчма зялёнацьмяная: выйдзе на ганкі коўзкія Сямён Вага, паглядзіць у вочы свае бясьцьветныя і адчуе нутром мужычым, што выняў душу вядзьмак-лясун—лісьлівы і хітры Ян Палуянавіч Забягаеў і аддасьць цела свае Сямён Вага нахіленай страху вярбе. Дзе п'юць, там і льлюць: згінуў каняка—пропадам-прападзі аброць!

А крыху воддаль, за царквою, за садам, за карчмою няшчасьце стаіць—двор старасты вясковага. Не дварок, а вянок, крэпасьць руплівага гаспадара,—адразу відаць, што староста мае срэбраную мэдаль ад павятовага земства: „Р. С. Мазуру за добрую працу". Праца добрая, як вочы Мазура Рыгора Сымонавіча,—яны бегаюць, на людзях не застанаўліваюцца, і ніхто ня ведае колеру гэтых вачэй, ня хоча бачыць іх. Карысная, як рукі старасты, гадалка па „Оракулу" знайшла на іх дваццаць калод пчол, два цяглы зямлі, падзёншчыну мужыкоў, пяць тысяч у банку, крыўду і злосьць суседзяў і суседак. (Складала-ж „Оракул" і словы праўды сьлязьмі выплаканамі палівала салдатка Грыпіна, знаёмая гадалкі і наймітка Мазура). Добрая праца—лісіцыны вочы Мазура, карысная работа—зладзейскія рукі Рыгора Сымонавіча на мужыкоў ланцугі наклалі.



Памёр староста вясковы, і ніхто сьлязінкі не прараніў. Пахаваньне шумнае і славутае было: маёнткі панскія палілі, зямлю на кавалкі рэзалі, партызанамі ішлі ў лясы, бяз лусты хлеба, нюха пораху паміралі і крочылі ўперад, на д'яблаў XX стагодзьдзя. І звалі ўсё гэта **рэволюцыяй**. Хвалі рэволюцыі скінулі ў сьметнік гісторыі і вясковага старасту і карчму, што стаяла супроць царквы. Дзеці ў школе калі-ні-калі ўспамянуць незразумелыя і чужыя для іх вобразы:

Каля вуліцы зломаны ганак,
Прызбы зрытыя, вокны бяз шыб...
. . . . . . .
Там і вораг здаваўся мне братам,
Абы чарку гарэлкі наліў [2]).

Памёр староста вясковы, памерла карчма, але жывуць Рыгор Сымонавіч Мазур і Ян Палуянавіч Забягаеў. Ходзяць на паседжаньне царкоўнага савету, з айцом Палундрыем радзяцца думы, цяжкія, невясёлыя адзін другому перадаюць. Часам уваскрэсьне ў Мазуры—староста, а ў Забягаеве—карчмар, і тады абое яны падобны да злых карцёжнікаў: бяруцца за рукі, выходзяць з хат сваіх, ідуць па нацыяналізаванай зямлі,—зрываюць сходы па самаабкладаньні, хаваюць жывёлу, об'екты ападаткаваньня, топчуць-месяць пасевы комсамольцаў і комуністых. Або-або—адзіны шлях, іншага выхаду няма. А як атрымаюць здачу, і нават з ліхвою, зноў на момант памруць староста і карчмар.




Нядаўна ў вёсцы здарылася нешта страшное для Рыгора Сымонавіча, Яна Палуянавіча і айца Палундрыя: організаваўся колгас з дваццаці сямі гаспадароў. Прайшоў тыдзень колгас меў ужо шэсьцьдзесят тры гаспадаркі. А як сабралі сход—трыста двароў у вёсцы,—званар Захар выступіў з прамовай:

— Так так, я парашыў уступіць у колгас... вось ключы вам ад царквы. Хто іх возьме?

Захар блудзіў нямым поглядам па натаўпе, чакаў ад трохсот чалавек хаця-б аднаго слова. Але маўчалі людзі, глядзелі на званара, дый не на яго, а на ключы царкоўныя, заржавелыя. Ключы хісталіся ў руцэ Захара, то вышэй узьнімаліся, то ніжэй апускаліся, а то дрыжэлі на адным месцы і зьвінелі хваравітым мэталічным хрустам.

Ніхто ня ўзяў ключы, ніхто не захацеў быць комэндантам боскага дому. Ключы бразнулі на стол прэзыдыуму. Тут-жа прынялі пастанову перадаць царкву пад хату-чытальню. А праз дзён колькі і самой вёскі ня стала: трыста двароў аб'ядналіся ў колгас „Зьвязда". З гэтага ліку трэ' выключыць Рыгора Сымонавіча, Яна Палуянавіча і айца Палундрыя. Ня то што яны не захацелі пайсьці ў колгас,—ня прынялі іх сяляне.

Злосьць на пана і падпанка ня выцьвіце ў былога мужыка.

. . . . . . . . .

Бунтуецца зямля. Кроў мужычая ўзбунтавалася. Супроць Мазураў, лясоў-пералескаў, Забягайлавых, абшараў балот, айцоў Палундрыяў, меж-барозен. Вецер з гораду зьмяняе твар зямлі. Тысячы вёсак пераходзяць у колектывы. Перабудоўваецца экономіка, адміраюць старыя ўзаемаадносіны, нараджаюцца новыя звычаі.

[1]) Апісаны выпадак меў месца ў вёсцы Насовічы, Мазырскае акругі.
[2]) З поэмы М. Чарота „Карчма".

# СТРЭЛ ВОРАГА

„...Лагодны дзень восені. Хутка плывуць хмары з серабрыстымі краямі. Сьмяецца і куляецца сонца".

Так пісаў у адным з сваіх расказаў, забіты куляй клясавага ворага таварыш Варава—адданы партыі і рабочай клясе камуністы.

Варава любіў сонца—узыходзячае сонца новага комуністычнага сьвету. І прышоўшы да нас са стогнучай пад пятай фашызму Заходняй Беларусі, прышоўшы да нас адтуль, дзе пануе цемра і прыгнечаньне, таварыш Варава, з усёй заўзятасьцю адданага рэволюцыі змагара, кінуўся на барыкады клясавых боек—кінуўся для таго, каб хутчэй над усім сьветам пачало зіхацець сонца сапраўднай свабоды, сонца комунізму.

Але люты клясавы вораг ужо падпільноўваў яго з рэвольвэрам напагатове ў руках.

І вось прагрымеў здрадніцкі, зладзейскі стрэл... І ня стала Варавы.

Гэта было пятага мая 1929 году ў дзень сьвята друку—савецкага друку.

* *

„Асоцыяцыі", „кабарэ", няпрыстойныя папойкі з прастытуткамі, брыдкія подленькія анэкдоты са скрытымі замерамі дыскрэдытаваньня ўлады працоўных, пасеяць нацыянальны разброд... Вось чым займалася ў Менакрза банда контр-рэволюцыянэраў—Парсакоў, Насута, Венедыктаў.

Але трапляліся справы і горшыя за гэта. Зрываліся работы, у часе камандыровак на вёску вытвараліся п'янкі, чым прымушалі хістацца сялянскую даверлівасьць да савецкай улады, чым сьвядома дыскрэдытавалі ўладу рабочых і сялян.

З усім гэтым і змагаўся таварыш Варава, як рэдактар сьценгазэты ўстановы „Зямельны працаўнік", як комуністы, пасланы партыяй на гэты сур'ёзьнейшы вучастак баявога фронту.

Дзейнасьць таварыша Варавы, дзейнасьць, якая выводзіла на сьвет усё цёмнае, не падабаецца злачыннай бандзе контр-рэволюцыянэраў. Заметкі ў сьценгазэце трапляюць проста ў вока. Заметкі выкрываюць іх шкодніцтва, патрабуюць, настойваюць на ачышчэньні затхлае атмосфэры ў Менакрза.

— Пішэце, таварыш торфмэйстэр. Свой адказ мы вам напішам крывёю.

Так казалі Варавe контр-рэволюцыянэры.

І сапраўды свой адказ яны напісалі крывёю комуністага-героя.

* * *

Хто-ж яны—гэтыя клясавыя ворагі, якія адважыліся вырваць з нашых радоў лепшага з лепшых, якія адважыліся падняць сваю ўзброеную руку супроць дыктатуры пролетарыяту?

Насута—фізычны забойца таварыша Варавы, служыў перш у царскай арміі, а ад службы ў Чырвонай арміі—„устрымаўся". Ён скончыў чыгуначнае тэхнічнае вучылішча. Потым жыў на вёсцы, а затым па протэкцыі „свайго прыяцеля" Парсакова прыладжваецца на працу ў кіраўніцтва Менакрза.



**Пасяджэньне Вышэйшага Суду ў залі клюбу Саўгандальслужачых.**



**Абвінавачаныя: Насута, Парсакоў і Венедыктаў на лаве падсудных.**

Насута, яшчэ да забойства, пісаў у сваім лісьце „тым, каму ведаць належыць":—„Забойствам Варавы я вырашыў політычна дэманстраваць супроць дыктатуры дыктатараў".

У сваім лісьце Насута даводзіць аб сваіх марах аб анархізьме.

А потым, ужо на судзе, на пытаньне аб тым, ці лічыць ён магчымым пераход да анархізму бяз узброенай сутычкі з савецкай уладай, якая выяўляе дыктатуру пролетарыяту, ён адказаў:

— „Не, ня лічу".

Што можа быць больш ясна.

А вось другі—інжынэр Парсакоў, сын урадніка, галава „асоцыяцыі" п'яніц і дэбошыраў, які па прыкладу Насуты таксама абяцаў крывёю адказаць таварышу Варавe за яго заметкі ў газэце.

Парсакоў хітры, сьвядомы контр-рэволюцыянэр, небясьпечны клясавы вораг. Ён радзіў Насута забіць таварыша Вараву, нават прапанаваў даць яму свой рэвольвэр.

Трэці з падсудных, торфмэйстэр Венедыктаў ведаў аб задуманым забойстве таварыша Варавы. Ведаў і ня ўжыў ніякіх захадаў да таго, каб папярэдзіць гэта забойства.

* * *

Вось тыя, хто стаіць цяпер перад пролетарскім судом, тыя, каго судзіць гэты суд у клюбе Саўгандальслужачых гораду Менску.

Кожнаму нашаму рабочаму зусім ясна, зусім зразумела, што на гэтай лаўцы падсудных сядзідь наш клясавы вораг—вораг хітры, бязьлітасны, люты. А пагэтаму з нашага боку ў адносінах да гэтых клясавых ворагаў ня можа быць аніякай літасьці.

Аб гэтым выразна гавораць шматлікія рэзолюцыі рабочых менскіх фабрык і заводаў, якія аднагалосна патрабуюць расстрэлу забойцаў і суровага пакараньня іх супольнікаў.

Выкліканыя на суд сьведкі ўсе ў адзін голас характарызуюць Насуту і Парсакова, як пэўных контр-рэволюцыянэраў, як шкоднікаў, як заўзятых ворагаў савецкае ўлады і дыктатуры пролетарыяту.

І ня выратуе вас, Насута і Парсакоў, ні ваша двудушнае „раскайваньне", ні вашы спробы выявіць гэту крываву справу, толькі як асабістую помсту чалавека чалавеку.

Ня толькі Вараву вы хацелі забіць сваім здрадніцкім рэвольвэрным стрэлам.

Не! вы хацелі ў яго асобе ўдарыць усю рабочую клясу, вы хацелі ў яго асобе нанесьці ўдар ненавіснай вам дыктатуры пролетарыяту.

* * *

Суд ідзе!

Чытаецца прысуд: Насута і Парсакоў—да вышэйшае меры соцыяльнае абароны—да расстрэлу. Венедыктаў—да пяці год зьняволеньня з суровым адмежаваньнем.

Няхай добра запомняць гэты прысуд усе клясавыя ворагі дыктатуры пролетарыяту, усе ворагі соцыялістычнага будаўніцтва.

**Н. Б. П.**

# НА ПОЗЫЦЫЯХ „МІЖБУР'Я".



Мінулі рэволюцыйныя навальніцы грамадзянскіх франтоў. Тысячы герояў-абаронцаў рэволюцыі, вярнуліся да свае будняе працы,— настала мірная пара, *міжбур'е* да таго рашучага часу, калі ўзьнікне апошняя бура-бойка „на сьмерць" з сусьветным капіталам.

Гэтым будням жыцьця і дзейнасьці Чырвонай арміі і прысьвечана п'еса Зьм. Курдзіна „Міжбур'е". Беларускаму I Дзяржтэатру пашчасьціла аформіць яе і паказаць першай прэм'ераю сучаснага сэзону.

Гомель, дзе зараз працуе БДТ-I, захапляецца „Міжбур'ем". Організаваны глядач хутка будзе глядзець ледзьве не 25 ўжо паказ гэтага спэктаклю. Рабкоры „Полесской Правды" стройным хорам пахвалы ацэньваюць п'есу, крытыка сьцьвярджае тое-ж самае... І што асабліва важна ў ацэнках масавага гледача—гэта прызнаньне ім станоўчымі ўсіх элемэнтаў, якія характарызуюць спэктакль: п'еса „адна з лепшых пастановак БДТ-I", нават „найлепшая", яна дае „яскравую, праўдзівую зарысоўку жыцьця Чырвонай арміі", малюе „магутнасьць і моц Чырвонай арміі ў мірных умовах", яна „цікавая багатая зьместам, прыгожая"; самая пастаноўка глядзіцца „з затаеным дыханьнем", бо стварае на гледача „моцнае ўражаньне", узьнімае ў ім „бурны энтузіязм".



Трэба прызнаць, што посьпех „Міжбур'я"—гэта даўно чаканы посьпех беларускага тэатру, гэта яго новая перамога.

У нашы дні выключнага па сваім размаху, глыбіні і велічы будаўніцтва тэатр павінен быць магутным фактарам палітычнага выхаваньня мас, быць трыбунам, вястуном асноў новага жыцьця. Жыць адным жыцьцём з масамі, плячо ў плячо з імі, ісьці на перамогу перашкод, якімі яшчэ багата нашая сучаснасьць, зваць наперад, бадзёрыць стомленыя ва ўпартай працы сілы і апяваць героіку перамог, магчымых ахвяр—вось баявыя задачы нашага савецкага тэатру, ганаровай працы тэатральнага „Міжбур'я".

**Зьверху:** 2-і абраз — камандзір палка (Крыловіч), Галена (Ржэцкая) і Уладзімерскі (Дыбаў).

**Зьнізу:** 8-і абраз (апошні)—у клюбе палка.



...БДТ-I „Мостам" Рамановіча шчыльней падыйшоў да патрэб нашае сучаснасьці, „Міжбур'ем" Курдзіна стаў на баявыя позыцыі соцыялістычнага будаўніцтва, якія вымагаюць ад герояў „Міжбур'я" ўмелага пераключэньня свае баявое энэргіі з трапных удараў па ўзброеным ворагу на ўпэўненую, вытрыманую лінію выхаваньня сьвядомага байца за Кастрычнік, на ўпартае перамаганьне цяжкасьцяй і перашкод вялікага соцыялістычнага будаўніцтва.

Герой „Міжбур'я"—камандзір конузводу, партызан грамадзянскае вайны Дыбаў настолькі ня можа прыстасавацца да задач „часу будоўлі і перадышкі", што змушаны нават пакінуць рады Чырвонай арміі, бо, па яго словах, ён „ня поп", каб праводзіць палітбяседы, бо, выконваючы скромную, ня бліскучую з першага погляду штодзенную працу будняў мы нібыта „топчамся, брат, на месцы" і г. д. Таксама нудзіцца „Міжбур'ем" і былая сатаварышка свайго мужа—жонка камандзіра палка Шчурава—Галена.

**Зьлева:** артысты Ўладзімерскі у ролі Дыбава.

**Зьнізу:** „Міжбур'е", 4-ы абраз—„у клюбе палка".



І вось у той час, калі Дыбава ратуе перамена абставін і захапляе размах нашага гаспадарча-культурнага будаўніцтва, Галена, далёка скаціўшыся ўніз, гіне.

Аўтар, рэжысэр і артыстыя разьвінулі перад гледачом шырокі і багаты фарбамі малюнак жыцьця Чырвонай арміі—ад камандзіра да чырвонаармейца. Крыловіч (Шчураў), Уладзімерскі (Дыбаў), Ржэцкая (Галена). Крыніца і Бірыла ўмела раскрылі вобразы—замыслы аўтара, і рэжысэра.

Самая пастаноўка афармлена настолькі ўдала, што стварае сабою, як правільна азначыў адзін з рэцэнзэнтаў, „своеасаблівую сімфонію рэчаў, фарб, гукаў і сьвятла. Слабей, хіба, музычны тэкст спэктаклю.

Пра недахопы (а яны ёсьць, але дробныя, малазначныя) казаць ня варта: яны „тонуць" у тым багатым зьмесьце спэктаклю, які робіць яго каштоўным дасягненьнем беларускага тэатру ў цэлым і БДТ-I у прыватнасьці.

Н. Б-скі.

# ПА УСІХ КУТКОХ



21 сьнежня 1929 году ў Маскве, у вялікім Крэмлёўскім палацы ангельскі пасол пан Эсмонд Ові перадаў т. Калініну свае пасольскія граматы.

НА ЗДЫМКУ: пан Эсмонд Ові, Старшыня ЦВК СССР т. Калінін, і нам. наркома замежных спраў тав. Літвінаў.




Жыцьцё абганяе ўсе нашы пляны і ў выніку вялізарнага ўздыму энтузіязму шырокіх працоўных мас пяцігодка ў галіне прамысловага будаўніцтва будзе выканана за 4 гады, а ў галіне колектывізацыі за 2 гады.

Старшыня Дзяржпляну СССР т. Кржыжаноўскі каля яграмы пяцігодкі.



На паўднёвым Урале узрастае новы мэталюргічны завод-волат на якім будзе працаваць больш 5000 рабочых. Навакол заводу будуецца цэлы новы горад. Уся пабудова мае быць скончана ў 1933 годзе і будзе каштаваць 170 мільёнаў рублёў.

На нашым малюнку: пэрспэктыўны плян Магнітагорскага Мэталюргічнага комбінату з заводам і рабочым гарадком.

Каб больш роўнамерна разьмяркоўваць цяплыню на палёх, на якіх вырошчываюцца кветкі, у Голяндыі дадумаліся ўстанавіць на гэтых палёх сыстэму вадзяного апалу.



НА МАЛЮНКУ агульны від палёў са станцыяй вадзяного апалу.



Паніка на Нью-Ёркскай Біржы пачалася 20 кастрычніка; 24-га кастрычніка прышло паведамленьне, што за некалькі гадзін прададзена 12 800 000 акцый, а 29 кастрычніка, у працягу аднаго дня, 16 400 000 акцый са стратаю 60 мільярдаў доляраў. У выніку дзесяткі тысяч дробных буржуа разарыліся ўшчэнт



Дніпрэльстан. Агульны выгляд пабудовы плаціны на левым беразе



У Маскве пабудова Дома Ураду ідзе паскораным тэмпам. Дом Ураду будуецца на беразе Масква-ракі

# СЬВЕТУ



Імпэрыялістыя хваляцца, што яны нібыта нясуць культуру ў свае колёніі. НА МАЛЮНКУ: „Культурная“ прылада—танк, які францускія драпежнікі выгружаюць у Тонкіне (Індо-Кітай).



У Брусэлі (Бэльгія) італіец Дэ-Роза зрабіў замах на італійскага прынца Умбэрто. НА МАЛЮНКУ: паліцыя выносіць Дэ-Роза які страціў прытомнасьць. Зьлева- відаць паліцыянта, які падняў на Дэ-Роза кулак і зьбіраецца яго ўдарыць.



Агульны від пабудовы новага вакзалу ў Кіеве.



У г. Кутаісе (Закаўказьзе) будуецца электрычная станцыя. НА МАЛЮНКУ: праца часовае плаціны.

Морскае ўзброеньне Польшчы. 1-шы польскі контр-мінаносец „Wicher“ (1500 тон вадавыцісканьня) узброены 6 міннымі апаратамі, дзьвюма 40 м/м зэнітнымі гарматамі, пры экіпажы 150 чалавек.





Былы аўстрыйскі міністар-прэзыдэнт Зэйпэль (зьлева) раіцца з каталіцкім прэлятам. Сам Зэйпэль таксама каталіцкі ксёндз.



Лёкаўтаваныя рабочыя на фабрыцы Хэйда ў Штокэраў (каля Вены)

# ДУМКІ ДА БЕСЬПЕРАПЫНКІ.

*(Хто і як разважае ў пяты дзень пяцідзёнкі).*

Малюнкі . Розанава. Тэкст Л. С.



БЮРОКРАТ. Раней казаў „прыхадзеце праз тыдзень“ чатыры разы ў месяц, а цяпер прыдзецца казаць гэта самае шэсьць разоў. (Падрахаваўшы). Патрабую 50 проц. нагрузкі.



„АМАТАР ДЫСКУСІЙ“. І-эх! Каб гэтая пяцідзёнка ды тры гады таму назад... Якую дыскусію разгарнуў-бы.—на цэлую пяцігодку хапіла-б.



ПРОФАКТЫВІСТЫ. У-ух. Як гара з плеч. Сем вечароў на тыдні быў заняты, а цяпер толькі пяць вечароў на тыдні. Лягчэй стала...



АБЫВАТАЛЬ. Мала ім было нядзелі, дык і суботу скасавалі... Калі-ж мне цяпер у лазьню схадзіць?

Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва. Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

